# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 9 (2567)

5 сакавіка 1998 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1500 рублёў.


8 САКАВІКА — ДЗЕНЬ ЖАНЧЫН



Не гаворачы пра далёкае замежжа, цяпер нават у блізкім — былых савецкіх рэспубліках — не ўсюды адзначаюць свята 8 Сакавіка, колішні Міжнародны жаночы дзень. Але ў Рэспубліцы Беларусь тое свята, што стала традыцыйным для многіх пакаленняў, засталося. Толькі цяпер яно называецца Дзень жанчын. Таму мы віншуем шчыра і горача з Днём жанчын і Юлію КУДРЫЦКУЮ, студэнтку 4-га курса лесагаспадарчага факультэта Беларускага тэхналагічнага універсітэта (на здымку), і нашых суайчынніц у Беларусі, у дзяржавах Садружнасці, і ў тых краінах за межамі Бацькаўшчыны, дзе жывуць беларусы.

Здароўя, шчасця, прыгажосці і кахання!

Фота Віктара СТАВЕРА.

КІБЕРНЕТЫК ПЕРАКЛАДАЕ

## МЕРА ДУХОЎНАГА САМАВЫЯЎЛЕННЯ

На цікавых і шматлюдных вечарынах, прысвечаных ушанаванню Сяргея Грахоўскага ў сувязі з 70-годдзем яго творчай дзейнасці, што адбыліся ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, а потым у літаратурным музеі Я. Коласа, Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь, шэраг вершаў у сваім перакладзе на рускую мову чытаў Генадзь Рымскі. Вядучыя Р. Баравікова, І. Курбека, Г. Дзягілева прадстаўлялі новага перакладчыка, незнаёмага пераважнай большасці прысутных, як вучонага, акадэміка некалькіх міжнародных акадэмій навук. Слухачы з цікавасцю сачылі за сціплым, бадзёрым чалавекам з ветлівым адухоўленым тварам і інтэлігентнымі манерамі. Творы Сяргея Грахоўскага на рускай мове ў перакладзе Г. Рымскага гучалі гэтак жа прыгожа, як і на беларускай, аніводнай дэталлю не адчувалася, што гэта пераклад. Нячаста даводзіцца чуць вершы ў перакладзе ў такім нязмушаным і меладычным гучанні. Гэта сапраўднае свята, прынамсі для мяне і маіх знаёмых, сядзець сярод удзячнай публікі і слухаць бясконца цудоўныя вершы Сяргея Грахоўскага ў яго ж выкананні. Адчуваеш нейкі незвычайны душэўны ўздым, пачуццё радасці і гонару за народ, які мае такіх творцаў. Пераклады Генадзя Рымскага, а іх ужо некалькі дзесяткаў — вершаў і паэм, не псуюць агульнага настрою і адчування, галасы аўтара і перакладчыка аднолькава кранаюць душу.

Магчыма, прафесіянальныя перакладчыкі, спецыялісты-літаратуразнаўцы ў нечым не пагодзяцца са мной, знойдуць іншыя вызначэнні. Я ж перадаю ўласныя ўражанні.

Прыемныя падзеі і змены, якіх было ў Генадзя Рымскага ў 1997 годзе шмат, адбываюцца хутка, і колькасць іх узрастае. Усё часцей ён выступае на паэтычных сходах. З'яўляюцца публікацыі яго перакладаў і ўласных вершаў. Ён стараецца не прапускаць Дні паэзіі, што адбываюцца ў скверы і музеі Я. Купалы. Адабрэнне і падтрымка Сяргея Грахоўскага акрылілі Г. Рымскага. Ён апантана працуе над новымі перакладамі твораў беларускіх паэтаў, як аддана, не знаючы стомы, працуе над навуковымі артыкуламі ў галіне кібернетыкі. Увесь вольны час ён прысвячае паэзіі і так адпачывае ад дзяржаўнай службы і заняткаў любімай навукай. Ён прывык усё жыццё працаваць і вучыцца. Без стомы. Без перадыху. Над рознымі пытаннямі ў розных галінах інтэлектуальнай дзейнасці. Толькі за апошнія месяцы прымаў удзел у святкаванні 115-х угодкаў з дня нараджэння Я. Коласа па запрашэнню яго сына Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча, дзе прачытаў лірычныя вершы, урыўкі з паэм "Сымон-музыка", "Рыбакова хата", і ў вечарыне "У час узлётаў і ў пару крушэнняў", што праводзіў паэтычны тэатр "Зніч".

Нядаўна секцыя перакладу Саюза пісьменнікаў Беларусі на сваім пасяджэнні абмяркоўвала падрыхтаваную Генадзем Рымскім кніжку перакладаў беларускіх паэтаў на рускую мову. Вядома, спецыялісты перакладу знайшлі асобныя недакладнасці, зрабілі заўвагі, але ж далі станоўчую ацэнку і аднадушна рэкамендавалі кніжку для выдання. А выйдзе яна хутчэй за ўсё ў Расіі, у Маскве.

Гартаю, перачытваю гэты зборнік, пакуль што ў машынапісным варыянце. Уражвае падбор аўтараў лірычных твораў — ад класікаў да яшчэ маладых паэтаў: М. Багдановіч, Я. Ко-

(Заканчэнне на 3-й стар.).

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

## ЯЎСЕЙ КАНЧАР

Яўсей Канчар — асоба яркая і самабытная. У беларускую гісторыю (прынамсі, у 6-томную "Энцыклапедыю гісторыі Беларусі") ён увайшоў як беларускі палітычны дзеяч, гісторык, публіцыст, вучоны ў галіне эканамічнай геаграфіі. Ён нарадзіўся 2 кастрычніка (20 верасня старога стылю) 1882 года ў вёсцы Сяўкі Рэчыцкага павета, цяпер Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці ў сялянскай сям'і. У пачатку стагоддзя жыў у Тыфлісе, за ўдзел у рэвалюцыйным руху ў 1906 годзе арыштаваны. З 1910 года ў Пецярбургу, далучыўся да кааператыўнага руху, у 1913 годзе выдаў дапаможнік "Кіраўніцтва па сельскай кааперацыі". Падтрымліваў сувязь з газетай "Наша ніва", дзе надрукаваў артыкул "Што такое кааперацыя" (1912, № 6). У рэвалюцыйным 1917-м стаў сябрам створанага ў Мінску Беларускага нацыянальнага камітэта. У лістападзе быў абраны старшынёй Беларускага абласнога камітэта пры Усерасійскім савеце сялянскіх дэпутатаў у Петраградзе. У снежні 1917 года ў Мінску распачаў працу Усебеларускі з'езд (кангрэс), які павінен быў выявіць волю беларускага народа па пытанню дзяржаўнага ўладкавання роднага краю. Адным з самых актыўных арганізатараў з'езда быў Яўсей Канчар. Фінал з'езда стаўся, на жаль, сумным: яго разагналі бальшавікі. Далейшая грамадска-палітычная дзейнасць Я. Канчара была звязана з працай у Беларускім нацыянальным камісарыяце (Белнацком) у Петраградзе, дзе ён загадваў навукова-статыстычным аддзелам. У красавіку 1918 года Белнацком пераехаў у Маскву, а Канчар стаў адным з кіраўнікоў яго Петраградскага аддзялення, узначальваў Беларускае вольна-эканамічнае таварыства. Працягваў займацца публіцыстыкай, друкаваўся ў газеце "Дзянніца", часопісе "Чырвоны шлях", выдаў зборнік "Беларускае пытанне" (1919, на рускай мове). Пісаў вялікую працу "З гісторыі грамадскіх, нацыянальных і рэвалюцыйных рухаў беларусаў", часткова надрукаваную ў 1918—1919 гадах. У 1922 годзе скончыў Петраградскую сельскагаспадарчую акадэмію, займаўся выкладчыцкай і навуковай дзейнасцю. Пры гэтым падтрымліваў сувязі з Беларуссю, быў членам-карэспандэнтам Інстытута беларускай культуры, друкаваўся ў мінскіх выданнях. Хацеў прыехаць на працу ў Беларускі універсітэт, ужо афарміў патрэбныя дакументы, але па невядомых прычынах пераезд не адбыўся. У 1923 годзе напісаў эканамічную геаграфію Беларусі і прапанаваў рукапіс выдавецтву "Савецкая Беларусь". У лістападзе 1938 года арыштаваны УНКУС па Ленінградскай вобласці, абвінавачваўся ў тым, што з'яўляўся "ўдзельнікам беларускай антысавецкай нацыяналістычнай арганізацыі", а ў 1917—1918 гадах быў членам нацыяналістычнай арганізацыі "Сацыялістычная грамада". У сакавіку 1938 года справа з-за адсутнасці складу злачынства была спынена і Я. Канчар з-пад варты вызвалены. У Вялікую Айчынную вайну Канчар быў у блакадным Ленінградзе. Сувязі з Беларуссю аднавіліся ў канцы 60-х гадоў, калі ён прапанаваў свае паслугі як гісторык і мемуарыст Беларускай Энцыклапедыі і часопісу "Полымя". Але час для публікацыі твораў такога аўтара тады яшчэ не настаў. Памёр 16 мая 1979 года ў Ленінградзе, на 97-м годзе жыцця. Невялікая частка яго асабістага архіва захавалася і збераецца ў Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь. Прапануюу ўвазе чытачоў аўтабіяграфію Я. Канчара, напісаную для вядомага гісторыка літаратуры С. Венгерава. Арыгінал знаходзіцца ў Пушкінскім доме ў Санкт-Пецярбургу. Тэкст друкуецца ў перакладзе на беларускую мову па рукапіснай копіі, зробленай у 1967 годзе.

Віталь СКАЛАБАН.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

## РАСПАЧАТА ДРУГАЯ СЕРЫЯ

Міжнародны фонд "Беларускі кнігазбор" новым (па ліку чацвёртым) томам "Беларускія летапісы і хронікі" папоўніў залатую бібліятэку краіны. Папярэднія аднатомнікі — выбраных твораў Янa Чачота, Максіма Багдановіча і Вацлава Ластоўскага — выйшлі ў першай серыі "Мастацкая літаратура". І вось распачата другая серыя — "Гісторыка-літаратурныя помнікі".

Як гаворыцца ў анатацыі, кніга ўваскрашае падзеі нашай даўніны. Упершыню ў перакладзе на беларускую мову выдаюцца "Хроніка Быхаўца", "Летапіс вялікіх князёў літоўскіх", Баркулабаўская хроніка, Віцебскі летапіс, Магілёўская хроніка Сурты і Трубніцкага, а таксама фрагменты "Аповесці мінулых гадоў" і Галіцка-Валынскага летапісу. У зборнік увайшлі і старонкі Рыцарскага эпасу (з "Пахвалой... князю Канстанціну Іванавічу Астрожскаму" і "Аповесцю пра Жыгімонта Аўгуста і Барбару Радзівіл"). А пачынаецца кніга "Паданнем пра Рагнеду", "Аповесцю пра Усяслава Полацкага", старонкамі Полацкага летапісу.

Нават па адным толькі пераліку гісторыка-літаратурных помнікаў можна меркаваць, што дапытліваму чытачу прапанаваны хвалюючыя старонкі далё-

(Заканчэнне на 7-й стар.).

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*СУПРАЦОЎНІЦТВА*

## БЕЛАРУСЬ — СІБІР

**У Мінску падпісана Пагадненне аб гандлёва-эканамічным, навукова-тэхнічным і культурным супрацоўніцтве паміж беларускай сталіцай і Томскам. Згодна з гэтым дакументам, будзе створана сумесная фінансава-эканамічная структура "БелСіб", якая будзе займацца пастаўкамі тавараў і ажыццяўленнем фінансавых разлікаў паміж Беларуссю і Сібір'ю.**

*АПЫТАННІ*

## БЕЛАРУСКАЯ АТАМНАЯ

**Згодна з апытаннем, праведзеным нядаўна Інстытутам сацыялогіі, "за" будаўніцтва атамнай электрастанцыі на тэрыторыі рэспублікі выказаліся 17 працэнтаў рэспандэнтаў.**

**Аднак гэтая лічба рэзка змяншаецца, калі пытанне канкрэтызуецца: толькі 5,7 працэнта апытаных пастаўяцца спакойна да будаўніцтва атамнай станцыі побач са сваім домам.**

**Па меркаванні дырэктара Інстытута сацыялогіі акадэміка НАН Беларусі Яўгена Бабосава, боязь беларусаў тлумачыцца чарнобыльскім сіндромам: з жыццёвых фактаў, якія выклікаюць трывогу ў насельніцтва, наступствы катастрофы "займаюць" трэцяе месца. Тлумачэнне таму простае: толькі 23-е (!) пакаленне нашчадкаў поўнасцю пазбавіцца ад "падарункаў" мірнага атама.**

**Частка жыхароў рэспублікі лічыць, што праблемы энергетычнага забеспячэння магчыма вырашыць, дзякуючы Саюзу Беларусі і Расіі. У прыватнасці, 18 працэнтаў упэўненыя, што аб'яднанне дае такія гарантыі. Ніякіх пераваг не бачаць 45 працэнтаў рэспандэнтаў.**

**Беларускія ж вучоныя (былі апытаныя 250 эколагаў, фізікаў, энергетыкаў і г. д.) мяркуюць, што разлічваць варта на свае рэзервы. Амаль 62 працэнты рэспандэнтаў выказваюцца за будаўніцтва атамнай электрастанцыі на тэрыторыі рэспублікі.**

**Толькі 9 працэнтаў апытаных экспертаў лічаць, што беларускія вучоныя досыць падрыхтаваныя. Жыхары рэспублікі таксама не вельмі давяраюць землякам, аддаючы перавагу высновам замежных спецыялістаў.**

*ДАБРАЧЫННАСЦЬ*



**Рэспубліканскі дзіцячы хірургічны цэнтр — сёння вядучая ў Рэспубліцы Беларусь, укамплектаваная самым дасканалым абсталяваннем медыцынская ўстанова дадзенага профілю. Тут штогод ратуюць жыццё, вяртаюць здароўе і будучыню тысячам маленькіх пацыентаў. Напрыклад, толькі з дапамогай апарата штучнага кровазвароту за мінулы год хірургамі-кардыёлагамі было зроблена 129 аперацый на "сухім" сэрцы. Кошт адной такой аперацыі па ліквідацыі якой-небудзь прыроджанай паталогіі сэрца абыходзіцца цэнтру ад пяці да пяцідзесяці тысяч долараў. А ўсе 129 аперацый мінулага года зроблены дзецям бясплатна.**

**Сёння дзесяць тысяч маленькіх грамадзян рэспублікі з прыроджанымі парокамі сэрца чакаюць сваёй чаргі на падобныя аперацыі.**

**"Асіліць" гэтыя аперацыі з пазіцый фінансавання і затрат на сучаснае аснашчэнне аперацыйных усімі неабходнымі матэрыяламі цэнтру няпроста нават пры падтрымцы Міністэрства аховы здароўя. І вялікую дапамогу ў аснашчэнні дзіцячага хірургічнага цэнтра аказалі і аказваюць самыя розныя грамадскія арганізацыі і дабрачынныя фонды Германіі, ЗША, Вялікабрытаніі, Аўстрыі, айчынныя спонсары.**

**Магчымасць атрымліваць самую апошнюю сусветную медыцынскую інфармацыю па кардыялагічнай хірургіі і іншых галінах праз сеткі "Інтэрнета" з'явілася цяпер і ў спецыялістаў Рэспубліканскага дзіцячага хірургічнага цэнтра — аднаго са структурных падраздзяленняў І клінічнай бальніцы Мінска. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Вялікабрытаніі ў Рэспубліцы Беларусь Джэсіка Пірс уручыла галоўнаму ўрачу І клінічнай бальніцы Мікалаю Андрэеву неабходную для гэтых мэт камп'ютэрную сістэму. Гэта дар пасольства дзіцячаму хірургічнаму цэнтру.**

**НА ЗДЫМКАХ: у час цырымоніі ўручэння. Мікалай АНДРЭЕЎ дзякуе Джэсіцы ПІРС; у палаце інтэнсіўнай тэрапіі.**



*ФЕМІДА*

## СПРАВА ШЫДЛОЎСКАГА І ЛАБКОВІЧА

**24 лютага быў вынесены прыгавор Мінскім абласным судом па так званай "стаўбцоўскай" крымінальнай справе супраць актывістаў Маладога фронту — школьніка Вадзіма Лабковіча і студэнта Аляксея Шыдлоўскага.**

**Шыдлоўскі і Лабковіч абвінавачваюцца ў тым, што 3 жніўня мінулага года яны аэразольнай фарбай зрабілі розныя надпісы на сценах некалькіх будынкаў у горадзе Стоўбцы, памянялі сцяг над будынкам райвыканкома і запэцкалі фарбамі помнікі Леніну і Дзяржынскаму.**

**У апошнім слове Аляксей Шыдлоўскі папрасіў прабачэння ў родзічаў за трывогі і клопаты, звязаныя з яго арыштам і судом: "Я пабыў у СІЗО і зразумеў, што тамтэйшае жыццё не для мяне, я не лічу, што мяне варта накіроўваць у калонію..."**

**Вадзім Лабковіч у апошнім слове папрасіў прабачэння ў сваёй маці і зазначыў, што ён хоча пайсці ў школу і закончыць выпускны клас.**

**Суд прыгаварыў абодвух да 1,5 года пазбаўлення волі. Аляксею Шыдлоўскаму гэтыя паўтара года давядзецца адбываць у папраўча-працоўнай калоніі ўзмоцненага рэжыму, а Вадзіму Лабковічу суд даў двухгадовую адтэрміноўку. Суд улічыў факт непаўналецця 16-гадовага Вадзіма Лабковіча і пастанавіў змяніць яму меру стрымання і вызваліць непасрэдна ў зале суда.**

**На вуліцы Вадзіма сустракалі яго аднакласнікі і актывісты БНФ, якіх сабралася больш сотні.**

*СТАТЫСТЫКА*

## ЗАРАБОТНАЯ ПЛАТА Ў 1997 ГОДЗЕ

**Намінальная сярэднямесячная заработная плата ў Рэспубліцы Беларусь у 1997 годзе складала 2 262,4 тысячы рублёў.**

**У снежні мінулага года яна дасягнула 3 276 тысяч, павялічыўшыся за месяц на 19,4 працэнта.**

**Нізкі ўзровень заработнай платы заставаўся ў сферы сацыяльнага забеспячэння, у сельскай гаспадарцы, культуры і мастацтве — у 1,4—1,8 раза ніжэйшы, чым у сярэднім па рэспубліцы. Найбольш высокааплатнымі былі работнікі прадпрыемстваў трубаправоднага транспарту (іх заробак у 1997 годзе складаў 5 443,7 тысячы рублёў у месяц), а таксама банкаў, міжгаліновых органаў гаспадарчага кіравання і мытняў (у гэтых галінах яна ў два і больш разоў перавышала сярэднюю заработную плату па краіне). На 26 студзеня 1998 года агульная сума запазычанасці па заработнай плаце дасягнула 953,6 мільярда рублёў, павялічыўшыся за месяц на 748,6 мільярда. 65 працэнтаў гэтага доўгу прыпадае на калгасы і саўгасы.**

**Сярэдні памер пенсій у 1997 годзе складаў 880 тысяч рублёў, у студзені 1998-га — 1 238,2 тысячы. Гэта толькі 65 працэнтаў ад велічыні мінімальнага спажывецкага бюджэту пенсіянера.**

*"Эканамічнае супрацоўніцтва з амерыканскімі партнёрамі для нашага пасольства з'яўляецца прыярытэтным напрамкам работы. У нас склаліся добрыя дзелавыя ўзаемаадносіны з кампаніямі, якія ўжо маюць у рэспубліцы свае прадстаўніцтвы. Я маю на ўвазе такія, як "Кока-Кола", "МакДональдс", "Форд Мотарс". Трывалыя і пастаянныя кантакты звязваюць нас з "Мотаролай".*

*Вялікім поспехам можна назваць падпісанне мемарандума паміж урадам нашай краіны і кампаніяй "Прайс уотэрхаўс", найбуйнейшай у свеце ў галіне прыцягнення інвестыцый і аўдыту, што ўяўляе для нас вялікую цікавасць. Акрамя таго, кампанія ацэньвае фінансавы стан прадпрыемстваў, рыхтуе іх да акцыяніравання і выводзіць на міжнародныя фондавыя рынкі. Гадавы абарот яе складае каля пяці мільярдаў долараў. Цяпер спецыялісты гэтай кампаніі заняты распрацоўкай некалькіх праектаў для Беларусі. Размова ідзе, у прыватнасці, аб інвесціраванні харчовай прамысловасці ў нашай краіне. Напрыклад, у вытворчасць дзіцячага харчавання ў гэтым годзе кампанія плануе ўкласці амаль 30 мільёнаў долараў ЗША. Каля 15 мільёнаў долараў будуць інвесціраваны ў вытворчасць бульбяных чыпсаў. Нарэшце, амаль у 350 мільёнаў долараў спецыялісты кампаніі ацанілі фінансавую дапамогу наваполацкаму ВА "Палімір", некаторым прадпрыемствам цэлюлозна-папяровай і нафтаперапрацоўчай прамысловасці. Па сутнасці, у беларускую вытворчасць прыйдуць новыя тэхналогіі, што палепшыць якасць прадукцыі, яе канкурэнтаздольнасць.*

*У ліку амерыканскіх партнёраў назаву яшчэ і кампанію "Гуд'ір". Яна з'яўляецца самым буйным у свеце вытворцам шын, кантралюючы 65 працэнтаў іх вытворчасці ў ЗША і каля 35 працэнтаў сусветнага рынку.*

*Гэтая кампанія разлічвае стварыць сумеснае прадпрыемства з беларускім шынным камбінатам "Белшына". У выніку выпуск прадукцыі бабруйчан можа павялічыцца ў тры разы за кошт экспарту ў Азію, Афрыку, краіны Паўднёва-Усходняй Азіі".*

**(З інтэрв'ю Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Беларусі ў ЗША Валерыя ЦАПКАЛА "Народнай газеце").**

*НА ПАЛЕССІ ПАВОДКА*






**Другая па ліку за гэтую зіму. Першая была ў студзені, і вось напрыканцы лютага зноў усё паплыло...**

**Раней звычайнага вызваліліся ад ільду палескія рэкі — Прыпяць, Гарынь, Піна, Стыр, Ясельда... Вадой затоплены палі, часткова — і прыбярэжныя вёскі. Лодка — адзіны транспартны сродак, які дапамагае тут перамяшчацца.**

**НА ЗДЫМКУ: паводка пад Пінскам.**

*АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ*

БЕЛАРУСКАМУ дзіцячаму фонду споўнілася 10 гадоў. Па яго ініцыятыве прыняты "Закон аб правах дзіцяці", распрацаваны і ажыццяўляюцца праграмы "Чарнобыль і дзеці", "Сіроты ў сем'ях" і іншыя.

ЯК ПАДАЕ Міністэрства статыстыкі і аналізу, на пачатак 1998 года ў Беларусі было 1 467 стратных прадпрыемстваў, а гэта 13,7 працэнта ад іх агульнай колькасці.

НА СЦЭНЕ Гродзенскага драматычнага тэатра ідзе на польскай мове спектакль па п'есе А. Чэхава "Прапанова". Паставіў яго заслужаны артыст Беларусі Сяргей Курыленка, а ролі выконваюць артысты невялікай трупы, якая створана пры мясцовым аддзяленні Саюза палякаў.

ПЕРШЫ фестываль гістарычных рыцарскіх клубаў адбыўся ў Мінску. Арганізатарам яго стаў мінскі рыцарскі клуб "Сэрца дракона". А з'ехаліся ў сталіцу рыцары і дамы з Гомеля, Мазыра, Рэчыцы, вядома ж — Мінска. Былі і госці з Расіі. Адбыўся рыцарскі турнір.

ПАМІЖ Банкам Расіі і Нацыянальным банкам Беларусі падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне падрыхтоўкі персанала. Пагадненне прадугледжвае ўдзел у семінарах, якія праводзяць вучэбныя цэнтры дзвюх дзяржаў, абмен вопытам работы, кансультацыі па актуальных праблемах, навучанне праграмам прафесійнай падрыхтоўкі.

*УНІВЕРСАЛЬНЫ ПАМОЧНІК*



**Ад вырабу эксперыментальных узораў мініяцюрнага УЭС "Палессе-30" да выпуску яго першай прамысловай партыі прыступілі ў вытворчым аб'яднанні "Гомсельмаш". Машына карыстаецца вялікім попытам, асабліва ў камунальных службаў. Акрамя аперацый па ачыстцы, уборцы вуліц ад лісця і снегу, карчаванню пнёў яна навучылася яшчэ і сколваць ледзяны покрыў.**

**НА ЗДЫМКУ: завяршаецца зборка першай прамысловай партыі універсальнага энергетычнага сродку УЭС "Палессе-30".**

# МЕРА ДУХОЎНАГА САМАВЫЯЎЛЕННЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

лас, Я. Купала, Ф. Багушэвіч, П. Панчанка, М. Танк, А. Куляшоў, К. Крапіва, У. Караткевіч, П. Броўка, А. Зарыцкі, А. Русак. Неабгрунтавана рэпрэсіраваныя У. Дубоўка, У. Хадыка, М. Чарот. Побач жывыя карыфеі С. Грахоўскі, Н. Гілевіч, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, С. Законнікаў, В. Зуёнак, А. Лойка, А. Вярцінскі. Паэтаў беларускага замежжа прадстаўляюць Н. Арсеннева, А. Салавей, М. Сяднёў, У. Дудзіцкі. Нашы сучаснікі В. Аколава, Э. Акулін, Г. Каржанеўская, У. Някляеў, У. Скарынкін, Я. Янішчыц, шэраг маладых беларускіх паэтаў. Найбольшая колькасць перакладзеных вершаў належыць С. Грахоўскаму і В. Зуёнку.

Якое прыгожае пісьменства! Адметны выдатны густ у перакладчыка Генадзя Рымскага, што выяўляе ў ім добрага знаўцу і прыхільніка беларускай паэзіі. Толькі чалавек, улюбёны ў яе, які здаўна працуе з ёю і для яе, здатны на такое. Мяркую, што трымаю ў руках сапраўдную анталогію беларускай лірычнай паэзіі, якая мае вялікія мастацкія здабыткі. Магчыма, друкаваная кніжка так і будзе называцца. Дык чаму ж так мала вядома для аматараў літаратуры пра яе аўтара? Што ён за чалавек, чым займаецца, дзе яго карані, адкуль яго захапленні? Паспрабую адказаць на гэтыя пытанні, ведаючы Г. Рымскага па працы ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ў галіне вылічальнай тэхнікі і кібернетыкі з 1960 года.

* * *

Генадзь Рымскі — цікавы, працавіты, мэтанакіраваны, багаты душой чалавек, з разнастайнымі інтарэсамі і захапленнямі, што праявіў здольнасці ў шмат якіх гранях інтэлектуальнай дзейнасці. Ён вядомы вучоны ў галіне тэхнічнай кібернетыкі і інфарматыкі. Упершыню загадчыкам лабараторыі быў абраны ў 1969 годзе ў Інстытуце тэхнічнай кібернетыкі Акадэміі навук Беларусі. Амаль дваццаць гадоў ужо доктар тэхнічных навук. Прафесар, які за тры дзесяцігоддзі працы ў вышэйшай школе распрацаваў шэраг змястоўных курсаў лекцый і падрыхтаваў уласную навуковую школу. Актыўны вынаходнік: у яго больш трыццаці аўтарскіх пасведчанняў на вынаходніцтвы новых прыладаў, сістэм, прыстасаванняў, на якія выдадзены 16 патэнтаў буйнейшых прамыслова развітых краін свету: ЗША, Японіі, Вялікабрытаніі, Германіі, Францыі, Італіі і інш. Аўтар шматлікіх навуковых прац, сярод якіх 5 грунтоўных манаграфій, 8 брашур, звыш 100 артыкулаў і дакладаў. Манаграфія "Аўтаматызацыя даследавання дынамічных сістэм" адразу ж пасля выхаду ў Беларусі (1978 год) была ў тым жа годзе выдадзена ў ЗША. Як жа ўмеюць сапраўдныя спецыялісты ацаніць і аператыўна апублікаваць на англійскай мове неардынарную, з новымі падыходамі і рашэннямі кнігу, незалежна ад месца яе першапачатковага выдання! Ці можна падлічыць, колькі сіл, працы і ведаў укладзена ім у апошнюю манаграфію пра інтэлектуальныя сістэмы, што працуюць з выкарыстаннем метадаў штучнага інтэлекту, выдадзеную ў 1994 годзе на 631 старонцы: "Тэорыя сістэм аўтаматызаванага праектавання: інтэлектуальныя САПР на базе вылічальных сістэм і сетак". Нават па загалоўку чытачы могуць меркаваць, што размова ідзе аб найноўшым і перспектыўным накірунку распрацоўкі сучасных інфармацыйных тэхналогій, якія будуць выкарыстоўвацца і ў наступным стагоддзі.

Ён піша паэтычныя творы ў асноўным на рускай мове, перакладае беларускіх паэтаў, можа пісаць на беларускай мове. Робіць усё старанна, бо для яго гэта не масавая, а адзінкавая "вытворчасць", мера духоўнага самавыяўлення і сцвярджэння дасканалых прыгожых паэтычных форм.

Генадзя Рымскага заўсёды рады бачыць супрацоўнікі выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя П. Броўкі, бо яму ўласціва складна і даходліва пісаць аб няпростых паняццях: тэорыі аўтаматычнага кіравання, аўтаматызаваных сістэмах кіравання і праектавання на аснове ЭВМ і іх сетак, гібкіх аўтаматызаваных вытворчасцях і модулях, кібернетычных прыладах. Для першай нацыянальнай універсальнай Беларускай энцыклапедыі ў 18-ці тамах ён таксама напісаў некалькі артыкулаў, якія апублікаваны ў пяці першых яе тамах. Мне даводзілася неаднаразова чуць ад работнікаў рэдакцыі фізіка-матэматычных і тэхнічных навук БелЭН добрыя словы ў адрас Генадзя за яго высокі прафесіяналізм, адказнасць, абавязковасць і ўменне заўсёды ў тэрмін выканаць чарговы заказ або просьбу аб кансультацыі ці рэцэнзіі.

Генадзь Рымскі з боку навуковай эліты Беларусі і суседніх краін прызнаны на многіх узроўнях. Ён абраны членам-карэспандэнтам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, правадзейным членам Беларускай інжынернай акадэміі, Беларускай акадэміі кіравання, Міжнароднай акадэміі інфармацыйных працэсаў і тэхналогій, Міжнароднай акадэміі інфарматызацыі і іншых. У цяперашні час удзельнічае ў выкананні шэрагу праграм фундаментальных даследаванняў Рэспублікі Беларусь і міжнародных праектаў. У 1995 годзе ён стаў лаўрэатам прэміі Акадэміі навук Беларусі за комплекс навуковых даследаванняў і цыкл апублікаваных манаграфій па праблемах аўтаматычнага кіравання.

Некалькі гадоў таму Генадзя Рымскага запрасілі на адказную дзяржаўную службу і прапанавалі працаваць у Дзяржаўным вышэйшым атэстацыйным камітэце Беларусі. Так ён стаў начальнікам аддзела тэхнічных навук важнага дзяржаўнага органа, але ён не перастаў быць сціплым, ветлівым, заўсёды аптымістычным і бадзёра настроеным чалавекам, які ніколі не падкрэслівае і не афішуе, а наадварот, замоўчвае сваю прыналежнасць да аўтарытэтнага і ўплывовага дзяржкамітэта.

Мінулы год стаўся для Генадзя Рымскага годам прызнання яго навуковых заслуг на міжнародным узроўні. Сусветна вядомая арганізацыя — Амерыканскі біяграфічны інстытут — паведаміла аб прысуджэнні яму ганаровага тытула "Чалавек года 1997". "Нам прыемна перадаць Вам — гаварылася ў лісце з ЗША, — што на аснове абмену думкамі і ўліку меркаванняў выдатных спецыялістаў аб Вашых дасягненнях Вы ўключаны ў абмежаваны спіс людзей, якім прысвоена прэстыжнае званне "Чалавек года 1997". Прыміце нашы віншаванні ў сувязі з гэтай падзеяй". Так Амерыка ацаніла навуковую і педагагічную працу на працягу амаль 40 гадоў свайго колішняга стажора ва універсітэтах Вашынгтона і Лос-Анджэлеса.

Леташні год стаў пачаткам грамадскага прызнання Генадзя Рымскага як паэта і перакладчыка з лёгкай рукі Сяргея Грахоўскага.

* * *

Генадзь Рымскі нарадзіўся ў Валгаградзе 19 верасня 1936 года. Заўважым, што ў тым жа годзе роўна праз месяц, 19 кастрычніка, яго любімы паэт Сяргей Грахоўскі, які працаваў рэдактарам літаратурнага вяшчання Беларускага радыё і выкладчыкам літаратуры на рабфаку пры БДУ і ўжо 10 год пісаў вершы, быў беспадстаўна арыштаваны, а затым сасланы на 10 год. Лік 19 з'яўляецца наогул асаблівым у лёсе гэтых дзвюх Асоб, асабліва старэйшага — Сяргея Іванавіча (нагадаю, 19.10.1946 ён вызвалены, 19.10.1947 — знята судзімасць Прэзідыумам ВС БССР, 19.05.1949 — паўторна арыштаваны, 19.10.1955 — поўнасцю рэабілітаваны).

Найбольшы ўплыў на развіццё яго здольнасцей аказала сям'я, культурная, інтэлігентная і працавітая, дзе шанавалі веды і збіралі кнігі. Бацька Генадзя быў буйным інжынерам, умелым арганізатарам. Як спецыяліст, ён вырас на Сталінградскім трактарным заводзе, дзе працаваў да самай эвакуацыі восенню 1942 года, бо ў цэхах трактарнага рамантаваліся танкі. У час эвакуацыі ў Свярдлоўску ён быў галоўным інжынерам абароннага завода, які выпрацоўваў матары для танкаў, а пасля вайны яго накіравалі ў Мінск намеснікам галоўнага тэхнолага МТЗ, дзе ён у наступныя гады працаваў начальнікам дызельнага цэха, начальнікам вытворчасці, стаў кандыдатам тэхнічных навук і быў пазней кіраўніком Бельсельгастэхнікі, дацэнтам Беларускага інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі.

Генадзь рана навучыўся чытаць. Як жартавала маці, настаўніца рускай мовы і літаратуры, ён у 6 гадоў чытаў, як моркву грыз. Да пераезду ў Мінск Генадзь скончыў на Урале тры класы. Калі лёс прывёў сям'ю ў Беларусь, бацькі не сталі падаваць заявы ў школу аб вызваленні Генадзя ад вывучэння беларускай мовы, хаця і маглі зрабіць гэта, як ім раілі іншыя прыезджыя. Вядома, што сапраўдным рускім інтэлігентам уласціва было ў мінулым і ў недалёкія часы ведаць, вывучаць гісторыю, культуру і мову тых народаў, дзе ім прыходзілася жыць. Так паступілі, на шчасце, і Генадзевы бацькі. Яны настойліва падказалі яму, што ён павінен вывучаць беларускія прадметы нароўні з усімі. "Ты павінен ведаць мову і культуру народа, сярод якога жывеш", — запомніў ён словы маці.

Бацькі падавалі дзецям прыклад у гэтым. Яны не былі абыякавымі да ўсяго беларускага: знаёміліся з побытам і мастацтвам беларусаў, любілі наведваць Купалаўскі тэатр, нацыянальныя музеі, слухалі мілагучныя песні, пяшчотную гаворку. Як было б пажадана, каб такім жа чынам ставіліся да беларускай гісторыі, культуры і мовы ўсе тыя, каму давялося жыць сярод беларусаў дзесяцігоддзямі!

Вольны час аддаваў кніжкам: іх у кватэры было заўсёды шмат. Прыхільнасць, любоў да паэзіі, спачатку рускай, выхоўвалася нязмушана, ішла найперш ад бацькоў, якія цікавіліся літаратурай як класічнай, так і сучаснай. Здаралася ў дзяцінстве, што маці, а іншы раз і бацька бралі Генадзя з сабой на работу. Тады ён слухаў урок літаратуры, найлепш запаміналіся вершы Лермантава, бо іх прыгожа чытала маці. А калі ён трапляў на завод, яго ўражвалі гмахі, бясконцыя рады станкоў, зборка трактароў (на Урале — танкаў). Ці не з той пары ў Генадзя раздваенне: тэхніка і лірыка, тэорыя кіравання, аўтаматызаваныя сістэмы кіравання і праектавання складаных тэхнічных аб'ектаў і паэзія?

Яму пашанцавала і са школай. Ён вучыўся па месцы жыхарства ў трактаразаводскім пасёлку ў 11 сярэдняй школе імя А. Чэхава. Скончыў яе ў 1954 годзе з сярэбраным медалём. З чацвёртага класа марыў аб моры, так ён хацеў аддзячыць лёс за тое, што нарадзіўся на Волзе.

Вышэйшую адукацыю атрымаў у Расіі, у адным з самых прэстыжных вайсковых інстытутаў — Вышэйшым ваенна-марскім інжынерным радыётэхнічным вучылішчы (зараз Вышэйшае ваенна-марское вучылішча радыёэлектронікі імя А. С. Папова) з багатымі традыцыямі, дзе былі створаны добрыя ўмовы для раскрыцця здольнасцей. Вучылішча размяшчалася ў цудоўным прыгарадзе Санкт-Пецярбурга, дзе шмат музеяў, палацаў, пушкінскіх мясцін — там так і хочацца гаварыць вершамі. І ён пачаў іх пісаць. Друкаваліся яны ў насценных газетах, перакладаліся на музыку яго сябрамі. Там жа ў 1959 годзе надрукаваў першую навуковую працу, якой пачаў займацца з 1957 года.

На адпачынак сям'я звычайна выязджала на Волгу, да сваякоў у гарадок Сярэдняя Ахтуба, што ў 15 кіламетрах ад Валгаграда.



Стэп. Высокі правы бераг і левы пойменны, які праглядваецца на дзесяткі кіламетраў. Поўны кантраст з прыгарадамі паўночнай сталіцы Расіі і Беларуссю. Генадзь адзначаў, што такая змена асяроддзя — ад лясоў і азёр Беларусі да стэпавага волжскага прывolля — абуджала ў яго паэтычныя матывы. Увогуле, гэта адметная рыса Генадзя — жыццё на кантрастах, пераключэнне з адной справы на іншую, з аднаго асяроддзя ў другое, з аднаго віду дзейнасці на другі. Змяняюцца варункі — адкрываюцца іншыя грані жыцця і адносін да людзей, прыроды, сусвету. Так ён адчувае душэўны камфорт і суладдзе. Там, у вучылішчы, — курсанты, дысцыпліна вайсковая, аўдыторыі, палігоны, лясы, паркі. На Беларусі — цішыня, спакой, ягады, грыбы. А на Волзе, як і на Сораці, у пушкінскім Міхайлаўскім, калі стаіш на высокім беразе ракі і ўглядаешся ў зарэчныя далі, вершы як быццам нараджаюцца самі.

Нашым лёсам часта кіруюць абставіны. Падчас вялікага хрушчоўскага скарачэння Узброеных Сіл СССР у 1960 годзе Генадзь быў дэмабілізаваны. Грандыёзныя перспектывы перад грамадствам адкрываліся з развіццём вылічальнай тэхнікі, і таму ён без ваганняў вырашыў ісці працаваць у Акадэмію навук Беларусі, тым больш, што і бацька так раіў. Чакаў амаль тры месяцы, пакуль не з'явілася вакансія інжынера ў акадэмічным Інстытуце матэматыкі і вылічальнай тэхнікі, дзе ў той час распрацоўвалася ЭВМ "Прамень". Адначасова з працай над арыфметычнай прыладай гэтай машыны зацікавіўся сістэмамі кіравання, іх матэматычным апісаннем. Так самастойна знайшоў навуковы кірунак дзейнасці, атрымаў першыя вынікі. У Беларусі гэтай тэматыкай ніхто не займаўся, таму ў перыяд водпуску паехаў у Маскву, сустрэўся са спецыялістамі і абмеркаваў з імі атрыманыя вынікі. Станоўчыя водгукі вядомых вучоных Маскоўскага дзяржуніверсітэта, Маскоўскага авіяцыйнага інстытута вырашылі яго лёс. З першых дзён утварэння Інстытута тэхнічнай кібернетыкі АНБ у 1965 годзе ён пачаў працаваць у ім. У 1967 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю, у 1980-м — доктарскую ў Маскоўскім вышэйшым тэхнічным вучылішчы імя М. Э. Баўмана (зараз Маскоўскі тэхнічны універсітэт).

У 1969 годзе атрымаў права кіраваць аспірантамі і быў абраны загадчыкам лабараторыі. З 1970-га — дацэнт, загадчык кафедры, прафесар Мінскага радыётэхнічнага інстытута.

Запомнілася ўражаннямі, кантрастамі навуковая стажыроўка ў ЗША ў 1972—1973 гадах. Паглыбляў веды па англійскай мове ў Вашынгтоне ў Джорджтаўнскім універсітэце адзін месяц, а астатні час — па спецыяльнасці ў Каліфарнійскім універсітэце ў Лос-Анджэлесе на кафедры камп'ютэрных навук. На гэтай кафедры ён быў першым савецкім вучоным. Добра памятае загадчыка кафедры прафесара Уолтэра Карплюса, шмат кніг якога па гібрыдных вылічальных сістэмах перакладзены на рускую мову. Генадзь пасябраваў з ім на глебе любові да паэзіі Генрыха Гейнэ, прычым Генадзь чытаў, напрыклад, "Ларэлею" на рускай мове, а У. Карплюс — на нямецкай. Зазначу, дарэчы, што і зараз Генадзь здзіўляе мяне і іншых, хто яго акружае, вялікай колькасцю вершаў, што ведае на памяць.

Хаця Генадзь вярнуўся ў ІТК у 1985 годзе, бо там былі лепшыя ўмовы для навуковай працы, аднак працягвае чытаць лекцыі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі, распрацоўвае новыя курсы на кафедры інфармацыйных тэхналогій. Аб узроўні і якасці курсаў можна меркаваць па водгуку аднаго з праграмістаў, які гады тры таму назад скончыў БДУІР і зараз працуе ў ЗША: у лісце свайму аднакурсніку на Беларусь ён адзначае асаблівую карысць курса лекцый прафесара Г. Рымскага.

Навуковы напрамак у Генадзя вельмі складаны. Скажу толькі, што ў адрозненне ад вядомых падыходаў у тэорыі аўтаматычнага кіравання, ён з дапамогай распрацаванай ім агульнай тэорыі каранёвых траекторый разглядае зменлівасць (варыяцыю) параметраў сістэм аўтаматычнага кіравання на любых зададзеных законах у адвольных абсягах, і гэта дазваляе яму прапаноўваць усё новыя метады даследавання ўстойлівасці і якасці лінейных, нелінейных, інтэрвальных сістэм аўтаматычнага кіравання, што вельмі важна для развіцця гэтай патрэбнай і карыснай галіны навукі, а таксама міжнароднага навуковага супрацоўніцтва і той жа Міжнароднай федэрацыі па аўтаматычнаму кіраванню. У гэтым прычына ўдзелу Г. Рымскага ў выкананні міжнародных навуковых праектаў і праграм. Ды і высокакваліфікаваных навукоўцаў падрыхтаваў Генадзь нямала. Шаснаццаць кандыдатаў навук лічаць яго сваім удумлівым і патрабавальным кіраўніком. Адзін з іх даўно ўжо абараніў доктарскую дысертацыю, а некалькі чалавек завяршаюць гэту нялёгкую працу. Можа, і гэты паказчык бралі пад увагу і ацэньвалі спецыялісты Міжнароднай даследчай камісіі, па прапанове якой Біяграфічны інстытут ЗША прысвоіў яму рэдкае пакуль што для Беларусі званне "Чалавек года" і тым адзначыў яго заслугі перад Беларуссю і навукай.

У тым жа, што яны не ўлічвалі яго шматгадовай працы над перакладамі, я ўпэўнены. Бо Генадзь з-за сціпласці сваёй і занятасці навукова-педагагічнай працай не паказваў аўтарам і літаратуразнаўцам свае пераклады.

Можна сказаць, што я ўбачыў і пачытаў пераклады вершаў Сяргея Грахоўскага таксама выпадкова. Было гэта восенню пазамінулага года ў кабінеце Генадзя ў ІТК у вячэрні час, калі ён вывеў з камп'ютэра на паперу толькі што перакладзены верш С. Грахоўскага "Падкова шчасця", што быў надрукаваны ў тым жа годзе ў "Народнай газеце".

Сяргей Іванавіч падахвоціў Генадзя, натхніў яго на прадаўжэнне працы, падтрымаў і ацаніў. Дзякуючы С. Грахоўскаму да Рымскага прыйшло прызнанне, жаданне быць карысным для беларускай культуры.

Г. Рымскі стаў часцінкай Беларусі, жадае і стараецца быць карысным ёй, дзе б ні быў і чым бы ні займаўся.

Чуў жарт ад калег: а не можа Генадзь прыстасаваць камп'ютэр для перакладу? Вядома ж, сучасныя ЭВМ, іх складанае праграмнае забеспячэнне могуць рабіць вельмі многае, нават выйграваць у шахматы ў чэмпіёна свету (прыгадаем пройгрыш Г. Каспарава суперкамп'ютэру ў мінулым годзе). Існуе машынны пераклад, але тычыцца гэта больш тэхнічных тэкстаў, а не мастацкіх твораў, ды і рэалізаваны ён для абмежаванага пераліку моў. Прызнацца, было б гэта проста цудоўна, каб можна было з дапамогай камп'ютэраў перакладаць прыгожую беларускую літаратуру, найперш паэзію, на ўсе мовы свету. Тады аб нас ведалі б усе жыхары планеты і, пэўна ж, любілі б!

Генадзь любіць Беларусь, служыць ёй, прысвячае ёй вершы, стварыў цікавую "Беларускую баладу". У вершы "Бацькаўшчына", які напісаны ім падчас аб'яўлення конкурсу на тэкст гімна Рэспублікі Беларусь, ён называе яе айчынай, роднай краінай, захапляецца яе здольнымі, працавітымі людзьмі:

**Беларусь, айчына,**
**Родная краіна,**
**Маці і каханне,**
**Веліч і спадар!**
**Беларусь — дзяржава,**
**Незалежнасць, слава,**
**Добрае спатканне,**
**Сціплы гаспадар.**
**Беларусь — духоўнасць,**
**Працавітасць, здольнасць,**
**Чуласць і сяброўства,**
**Вернасці аплот.**
**Беларусь — свабода,**
**Незалежнасць, згода.**
**Здолеўшы халопства,**
**Хай жыве народ!..**

Заўважана, што дзеці, сталеючы, усё больш пачынаюць паважаць, любіць сваіх бацькоў. Так і Генадзь, як і большасць сапраўдных сыноў і дачок Беларусі, стараецца прынесці ёй як мага больш карысці, выказаць ёй сваю любоў і пашану.

Паступова, марудна, але няўмольна адбывалася эвалюцыя духоўнага развіцця асобы, тых высноў, якімі кіруецца гэты чалавек у неспрыяльны для беларусаў час. Ён, рускі па паходжанню, беларус па характару, лічыць, што найбольшы ўклад у беларускую і рускую культуру ён зробіць тым, што дасць магчымасць многім рускамоўным, у першую чаргу ў Расіі, пазнаёміцца з багаццем беларускай паэзіі. Тым самым адчуць беларускую праблематыку, беларускі дух і зразумець беларусаў, якіх турбуюць і непакояць пытанні сваёй прысутнасці і выжывання ў свеце. Тады паболее людзей, якія будуць ведаць гісторыю Беларусі, яе літаратуру, бо пакуль такіх мала, і дапамогуць беларусам годна жыць у Беларусі, на роднай зямлі.

**Мікола САВІК.**

# АЎТАБІЯГРАФІЯ З ПУШКІНСКАГА ДОМА

***Міласцівы спадар!***

***Вельмі паважаны Сямён Афанасьевіч!***

***Пасылаю Вам маю аўтабіяграфію — з надзеяй, што яна будзе карысная для Вашага шаноўнага выдання. Напісаў я яе па просьбе іншых, многае са свайго жыцця ўспомніў з правам і яшчэ больш пакінуў у памяці, таму што тады мая аўтабіяграфія занадта разраслася б. Пасылаю таксама маю фатаграфічную картку, на жаль, я ў форме, але іншай пад рукой няма. Спазніўся я з прысылкай дзякуючы адсутнасці. Калі акажацца, што я ўжо не магу трапіць у Ваша выданне, то будзьце ласкавы паведаміць мне па адрасу: Спб., вул. Жукоўскага, 38, кв. 22.***

***З глыбокай павагай да Вас***

***Яўс. КАНЧАР.***

**12/VII. 913**

1) Яўсей Сцяпанавіч Канчар.

2) Нарадзіўся ў 1882 годзе, 20 верасня ў

3) беднай праваслаўнай сялянскай сям'і, у вёсцы Сяўках Мінскай губерні, Рэчыцкага павета, Дзеражыцкай воласці, на беразе Дняпра; сярод балот і лясоў у глушы некранутай беларускай прыроды, якая не магла не пакінуць вядомы след на ўсім характары Я. С.

4) Продкі Канчара амаль невядомыя. Хутчэй за ўсё прозвішча гэта — літоўскага паходжання і трапіла ў Мінскую губ. у час княжацкіх заваёў. Марыя Канчар, прабабка Я. С. з'яўлялася дваровай Празоравых і пры двары магната адыгрывала не апошнюю ролю. У якасці мужа яна прыняла да сябе вольнага казака Пракофія, родам з Чарнігаўскай губ. Дзеці пайшлі па прозвішчу маці. Дзед Я. С., Нестар Канчар, быў пры магнаце Празораве прыказчыкам, на ўсю рабочую акругу, нічога амаль не рабіў, усё жыццё не ведаў, што такое панскі бізун, затое сам караў прыгонных. Ён валодаў вялікім пчальнікам, меў многа жывёлы і ўвогуле жыў вельмі багата і знатна. К канцу жыцця становішча яго пры двары змянілася да горшага, так што чатырох сваіх сыноў — у тым ліку і бацьку Я. С., пакінуў пры не зусім спрыяльным становішчы.

Бацька Я. С., Сцяпан Нестаравіч Канчар, вызначаўся мяккім добрым характарам. Гэты дзіўны чалавек за ўсё жыццё сваё нават словам нікога не пакрыўдзіў, нягледзячы на тое, што ў вёсцы ён займаў крайняе месца і ўсе ўчасткі надзельнай зямлі яго размясціліся па беразе балот, дарог і ўвогуле нязручных выганаў. Разам з гэтым, ён быў надзіва працавітым і сумленным. Сваіх дзяцей ён любіў неяк па-асабліваму: ніколі іх не цалаваў, не лашчыў, але душа яго была цалкам аддадзена дзецям: толькі для іх ён працаваў і развіваў сваю невялікую гаспадарку.

Маці Я. С., Аляксандра Міхайлаўна, ураджаная сялянка вёскі Глушэц той жа Дзеражыцкай вол., па прозвішчу Аверчанка, вызначалася сваім розумам і энергіяй, гордасцю і смеласцю, занадта чулай і ўспрыімлівай натурай. Пад яе непасрэдным наглядам працякала дзяцінства Я. С. Яна была таксама непісьменнай, як і яе муж, але толькі магчыма таму, што яна непісьменная, яна зрабіла ўсё, каб адукаваць і выхаваць сына. Пазней, калі Я. С., будучы хлопчыкам, збег з дому вучыцца, Аляксандра Міхайлаўна адабрала гэты ўцёк. Аляксандра Міхайлаўна з'яўлялася другой жонкай. Ад першай жонкі ў Сцяпана Нестаравіча памерлі ўсе дзеці, і ад другой у яго было двое: старэйшая дачка Суліта і малодшы Я. С. Натуральна, што бацькі вельмі любілі Я. С., як адзінага сына. Вучэнне сваё Я. С. пачаў у вёсцы Сяўках, у царкоўнапрыходскай школе, якая толькі што адкрылася. Настаўнікам быў мясцовы селянін, адстаўны салдат Іван Цітовіч. Затым яго змянялі па чарзе ўсе такія ж настаўнікі, прычым кожны з іх біў неміласэрна сваіх вучняў: адных за адсталасць, іншых за падказванне. У царкоўнапрыходскай школе Я.С. лічыўся першым вучнем. Пасля трохгадовага абучэння хлопчык адчуў жаданне далей вучыцца, але бацька не хацеў адпускаць сына з дому. Пачалося з таго, што хлопчык засумаваў, а затым аднойчы ноччу збег у бліжэйшую вёску Дзяражычы, у народнае вучылішча вучыцца. Ні пагрозы, ні пабоі, ні нават гвалтоўнае вяртанне дамоў у Сяўкі — ніштo не дапамагло: хлопчык збягаў у школу, што была ад Сяўкоў за 6 вёрст, сам сабе гатаваў есці і на працягу адной зімы здаў экзамен. У Дзяражычах Я. С. ішоў таксама першым вучнем. Пасля Дзяражыч Я. С. Канчар робіць спробу паступіць у мастацкую майстэрню ў мястэчку Любеч Чарнігаўскай губерні, таму што ў ім тады быў выяўлены несумненны талент мастака, але з майстэрні юнак ужо праз некалькі дзён пайшоў, таму што атмасфера майстэрні занадта ўплывала на яго ўражлівую натуру. Потым ён паступае ў фатаграфію п. Маркава ў горадзе Кіеве, але і тут атмасфера аказалася ўдушлівай, так што праз месяц Я. С. кінуў майстэрню, расчараваўшыся ў людскіх адносінах. З гэтым настроем юнак паступае ў адзін з манастыроў у Кіеве ў якасці паслушніка, аднак разбэшчанасць і рабства, якія панавалі ў асяроддзі манахаў, не прымірылі вольналюбівую і сумленную натуру Я.С., і юнак неўзабаве кінуў і гэтую апошнюю спробу і даў сабе слова вучыцца, вучыцца, што б там ні было, мяркуючы, што ў навуцы ён знойдзе той ідэал, дзеля якога варта жыць і працаваць.

На сродкі бацькоў нельга было разлічваць, таму Я. С. Канчар, якому было ўжо ў той час 16 гадоў, паступае ў якасці настаўніка царкоўнапрыходскай школы, зарабляе крыху грошай і з імі ідзе працягваць вучыцца ў земляробчае вучылішча ў [Мар'іну] Горку.

Пасля вучылішча Я. С. падарожнічае па Поўдню Расіі пешшу, старанна вывучае паўднёвыя калоніі чэхаў і немцаў з мэтай разгадаць розніцу, што існавала паміж гаспадаркамі гэтых каланістаў і карэннага рускага насельніцтва. У Адэсе Я. С. Канчара арыштавалі і пратрымалі ў ахранным аддзяленні больш тыдня. Да таго часу малады чалавек не ведаў падпольнага палітычнага жыцця і яго герояў, але падвал Ахраннага аддзялення адразу адукаваў. Я. С. быў сведкам у ахранцы самых жудасных карцін, але асабліва адбілася на сэрцы бязлітаснае збіццё затрыманых: білі дзяжурныя гарадавыя спецыяльнай пугай у асобым закануркy на драўлянай тахце... З Адэсы, дзякуючы памочніку вышуковага аддзялення Г. фон.-Ланге, Я. С. Канчара па ахраннаму ордэру адправілі ў г. Батум.

На Каўказе Я. С. Канчар па чарзе служыў то на чыгунцы, то ў маёнтку Вялікага князя Міхаіла Мікалаевіча ў якасці землямера, то ў рэдакцыі газеты "Закавказье" ў якасці сакратара рэдакцыі, то, нарэшце, у Імператарскім Каўказскім таварыстве сельскай гаспадаркі ў якасці фактычнага рэдактара часопіса "Кавказское хозяйство".

У 1906 годзе Я. С. Канчара арыштавалі і пасадзілі ў Мяцехскі замак па падазрэнню ў арганізацыі чыгуначнага саюза. Арыштаванаму было прад'яўлена абвінавачанне па 102 артыкулу, але Тыфліская судовая палата ў 1908 годзе абвінавачваемага апраўдала.

У 1910 годзе Я. С. Канчар паступіў на С.-Пецярбургскія Вышэйшыя Сельскагаспадарчыя курсы (Агранамічны інстытут) і лічыцца студэнтам на 4-м курсе (1913 год).

У жыцці Я. С. склаліся паслядоўна 3 уплывы: у самых ранніх гадах — Лермантаў, затым Джон Роскін і, нарэшце, Фр. Ніцшэ. Кожны з гэтых уплываў наклаў на ўразлівую натуру Я. С. свой адбітак. На гэты момант Я.С. перажывае сваю ўласную тэорыю на гаспадарчыя адносіны людзей.

Літаратурай і менавіта вершамі Я. С. пачаў займацца са школьнай парты, а ўпершыню стаў друкавацца ў Тыфлісе, у газеце "Новое обозрение", што выдавалася пад рэдакцыяй вядомага грамадскага дзеяча князя Г. М. Туманава. Гэта было ў 1902 годзе. З 1905 года



Я. С. Канчар пачаў друкавацца ва ўсіх газетах і часопісах Закаўказзя: "Кавказское утро", "Кавказская Неделя", "Справедливость", "Новь", "Баку", "На Кавказе" і г. д. Першы верш быў надрукаваны ў "Кавказском утре". Усе вершы Я. С. носяць грамадзянскі характар, і толькі апошнія, надрукаваныя ў тоўстым штомесячніку "На Кавказе" (г. Екацярынадар), вызначаюцца ці безвыходным смуткам, перамешаным з песімізмам, ці гордым, амаль напышлівым поглядам на чалавецтва. У 1907 годзе (У 1906. — **В. С.**) Я. С. Канчар пачаў выдаваць свой уласны часопіс "Ручеёк", але на другім № Тыфліскі камітэт па справах друку выданне прыпыніў, а падстаўленага рэдактара Н. І. Несцерава і самога выдаўца пастанавіў прыцягнуць да адказнасці па 121 артыкулу. Пракурор, аднак, не знайшоў магчымым абвінавачваць і справу спыніў. У часопісе "Ручеёк" звяртае на сябе ўвагу верш "Мужык". З празаічных рэчаў Я. С. звяртае на сябе ўвагу паўдраматычны твор "Змова", надрукаваны ў часопісе "На Кавказе" за 1909 год. У гэтым творы выказаны погляд, што і вучоны, і кулак, і суддзя, і абаронца, і доктар, і духоўнік — усе жывуць за кошт простага і абяздоленага чалавека, як і "дух панукочы, няўлоўны, сатканы з забабонаў і цемры", жывуць як быццам для таго, каб дапамагчы беднаму чалавеку, але на самай справе, як паразіты, што смокчуць яго хворае цела. У Тыфлісе з 1908 па 1910 год Я. С. Канчар быў фактычным рэдактарам часопіса "Кавказское хозяйство", што выдаваўся Імператарскім Каўказскім таварыствам сельскай гаспадаркі. У гэтым часопісе ён пачаў свае літаратурныя доследы ў галіне эканомікі і кааперацыі.

З пераездам у 1910 годзе ў С.-Пецярбург Я. С. Канчар зрабіўся пастаянным супрацоўнікам часопіса "Вестник Кооперации", што выдаваўся Спб аддзяленнем Маскоўскага таварыства сельскай гаспадаркі (кааператыўным камітэтам). Акрамя таго, Я. С. у Камітэце выконвае абавязкі сакратара сельскагаспадарчага аддзела. У Пецярбургу Я. С. друкаваўся ў "Неделе" Бітнера, у "Экономисте России", у "Школе и Жизни" Фальборка, у "Деревенском хозяйстве", у "Журнале сельского хозяйства и лесоводства", у Маскве — у кааператыўным "Союзе потребителей", у "Вестнике сельского хозяйства" і г. д.

Асобнымі выданнямі выйшлі наступныя працы Я. С. Канчара: "Очерки экономической деревни Закавказья", "Руководство по сельской кооперации", брашуры: "Как открыть с. х. общество", "Как открыть с. х. товарищество", "Частные культуры с-х растений". Увогуле, наступная літаратурная дзейнасць Я. С. ідзе па кааператыўна-эканамічнаму напрамку.

Разам з літаратурнай дзейнасцю Я. С. праяўляў увесь час гарачую грамадскую дзейнасць: выступаў у якасці дакладчыка на розных з'ездах, у вучоных таварыствах, чытаў лекцыі, арганізоўваў асветніцкія гурткі і кааператывы. Асабістыя інтарэсы — навучанне, кар'ера і да т.п. — адсунуты на другі план, і ўсе маладыя сілы аддадзены іншым.

Я. С. наведвае ў Сяўках сваіх родных, якія ўжо састарэлыя і на краі магілы, і ўвогуле аднавяскоўцаў. На радзіме ён карыстаецца вялікай папулярнасцю. Пад яго ўплывам шмат сялянскіх хлопчыкаў пачалі вучыцца ў розных навучальных установах, а адзін з іх, бядняк і сірата, з-за таго, што не мог ісці за сваім старэйшым "таварышам", — атруціўся.

Цяпер Я. С. Канчар працуе над вялікай працай — піша гісторыю кааператыўнага руху ў Расіі.

**ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ**

# СУПРАЦОЎНІЦТВА Ў ГАЛІНЕ ДРУКУ

19 лютага ў Мінску было падпісана пагадненне паміж урадам Рэспублікі Беларусь і ўрадам Расійскай Федэрацыі аб супрацоўніцтве ў галіне друку. На прэс-канферэнцыі з гэтай нагоды выступілі першы намеснік старшыні Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь Зіновій Прыгодзіч, першы намеснік старшыні Дзяржкамдруку Расійскай Федэрацыі Уладзімір Жаркоў і іншыя. Па словах спадара Прыгодзіча, падпісанае пагадненне — гэта якасна новы крок у адносінах паміж журналістамі, выдаўцамі, кнігараспаўсюджвальнікамі Расіі і Беларусі, паколькі ўсе ведамасныя пагадненні, што заключаліся раней паміж нашымі краінамі, рана ці позна натыкаліся на прававыя бар'еры, якія патрабавалі дазволу на ўзроўні урадаў. Падпісанае пагадненне ў першую чаргу рэгулюе прававыя пытанні ў галіне адносін сродкаў масавай інфармацыі, прадугледжвае вырашэнне ўзнікаючых спрэчак і праблем, а таксама меры па стварэнні спрыяльных умоў у галіне кнігавыдання, кнігараспаўсюджвання і паліграфіі.

У сваю чаргу, Жаркоў адзначыў, што падпісанне пагаднення — несумненны поспех у справе стварэння адзінай інфармацыйнай прасторы і супрацоўніцтва ў галіне друку. Такога дакумента ў рамках СНД пакуль яшчэ не існавала. Па словах намесніка старшыні Дзяржкамдруку Рэспублікі Беларусь Станіслава Нічыпаровіча, у кнігавыданні і кнігараспаўсюджванні Беларусі і Расіі існуе адзіны рынак, пацвярджэннем чаго служыць той факт, што сёння да 80 працэнтаў паліграфічных магутнасцей Беларусі выкарыстоўваецца для выпуску кніг па замежных заказах, у першую чаргу, расійскіх. З другога боку, у кніжным гандлі сістэмы Дзяржкамдруку да 80 працэнтаў у агульным аб'ёме тавараабароту складаюць кнігі з Расіі і іншых краін. І калі на працягу года ў Беларусі выпускаецца да 4,5 тысячы назваў кніг, то ў Расіі іх выпускаецца каля 40 тысяч, і асноўны асартымент кніжнай прадукцыі Беларусь папаўняе за кошт расійскіх выдавецтваў.

Сёння ў Беларусі зарэгістравана больш тысячы друкаваных выданняў, у Расіі іх 30 тысяч, пры гэтым дзяржаўная падтрымка аказваецца ўсяго дзвюм газетам і аднаму часопісу. Беларускія друкаваныя выданні на расійскім рынку сустрэць значна цяжэй, чым расійскія ў Беларусі. Адно з пытанняў, якое будзе вырашацца ў працэсе выканання пагаднення, — распаўсюджванне беларускай перыёдыкі на тэрыторыі Расіі. Аналіз беларускай прэсы, якая распаўсюджваецца ў Расіі, паказаў, што сёння ўсяго 39 беларускіх газет і часопісаў атрымалі ліцэнзіі на продаж і падпіску на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі. Першым крокам па рэалізацыі пагаднення стане стварэнне ў бліжэйшы час на Беларускім вакзале Масквы кіёска па продажы беларускай прэсы, якую мяркуецца рэгулярна дастаўляць туды на цягніках з Мінска. Транспарціроўка дзяржаўнай прэсы ў Маскву будзе ажыццяўляцца па льготных тарыфах. Што тычыцца незалежнай прэсы, то, па словах удзельнікаў прэс-канферэнцыі, перашкод да яе распаўсюджвання ў сталіцы Расіі чыніцца не будзе, але за дастаўку давядзецца плаціць і, думаецца, нямала.

Мяркуецца, што падпісаны дакумент створыць спрыяльныя ўмовы для руху на расійскі рынак не толькі беларускіх выданняў, але і беларускіх журналістаў. Адзначым той факт, што адзін з пунктаў пагаднення прысвечаны пытанню аб статусе журналістаў Беларусі на тэрыторыі Расіі і расійскіх журналістаў на тэрыторыі Беларусі. Асобая ўвага будзе ўдзелена пытанню кантролю за захаваннем заканадаўства аб друку беларускімі і расійскімі перыядычнымі выданнямі. Плануецца, што гэтая тэма стане адным з пытанняў для разгляду на сумеснай калегіі Дзяржаўных камітэтаў па друку Беларусі і Расіі, правядзенне якой плануецца ў бягучым годзе. Было выказана меркаванне, што міжурадавы статус пагаднення дазволіць яго ўдзельнікам вырашаць многія прававыя пытанні і, перш за ўсё, ажыццявіць працэс збліжэння заканадаўстваў дзвюх краін у галіне друку, з тым каб уніфікаваць іх асноўныя палажэнні.

У якасці сумеснага праекта прагучала прапанова яшчэ ў гэтым годзе знайсці ў бюджэце Саюза сродкі для таго, каб наладзіць сумесны з выдавецтвам "Просвещение" выпуск падручнікаў для школьнікаў абедзвюх краін. Паколькі паліграфічная база ў Беларусі каштуе танней, чым у Расіі, было б выгадна друкаваць школьныя падручнікі менавіта тут, у Мінску.

Адна з праблем, якая, магчыма, будзе вырашана дзякуючы падпісанню пагаднення, — аказанне дапамогі Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь абавязковымі экземплярамі кніг, што выходзяць у Расіі.

Гаварылася і аб часопісе "Союз", рашэнне аб стварэнні якога прынята парламенцкім сходам дзвюх краін, як вядома, ствараецца і сумесная тэлерадыёвяшчальная арганізацыя Саюза Беларусі і Расіі, і зараз ужо рыхтуецца да зацвярджэння яе статут.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## НАМ ПІШУЦЬ

# ПРАЦЯГВАЦЬ ТРАДЫЦЫІ

*Услаўляйце жыццё, пакуль Вам усміхаецца сонца*
*І бялюткі рамонак галоўкай ківае здалёк,*
*Пакуль птушкі пяюць і на цёплай дзіцячай далоньцы*
*Далікатнаю кветкай цвіце трапяткі матылёк.*

**Вера Дыдышка "Услаўляйце жыццё".**

Першага лютага. Ужо каторы год, як адкрылася беларуская школа ў Вільні, традыцыйна шырока адзначаецца дзень гімназіі. Гэтае свята асаблівае для вучняў нашай школы, яны загадзя рыхтуюць малюнкі "Мой сябар", "Нашы настаўнікі" і "Наша школа", афармляюць залу. Самае галоўнае — сустрэча з былымі выпускнікамі гімназіі. Яны самыя дарагія і жаданыя госці. Час нельга спыніць, з кожным годам іх становіцца ўсё менш. Хвілінай маўчання памянулі Лявона Луцкевіча. Здаецца, зусім нядаўна ён, адзін з ініцыятараў і арганізатараў школы, прыходзіў сюды, выступаў перад вучнямі, дапамагаў парадамі. Яго, старшыню ТБШ з дня яго ўтварэння, запрашалі на ўсе школьныя імпрэзы, і ён адгукаўся, хваляваўся за школу. Засталіся добрыя ўспаміны аб ім, касеты з запісамі радыёперадач "Беларускае слова на хвалях радыё Літвы", зараз іх настаўнікі выкарыстоўваюць на ўроках роднай літаратуры. Гэта былі перадачы асветніцкія.

І сёлета таксама прыйшлі выпускнікі Віленскай беларускай гімназіі. Гэта Міраслава Русак, якая ў сваім выступленні сказала: "Вы шчаслівыя, у вас ёсць магчымасць вучыцца на роднай мове", Яраслаў Станкевіч (настаўнік хіміі нашай школы) пажадаў добрых, трывалых ведаў, якія дапамогуць выжыць, выстаяць, застацца асобай, больш глыбока і дасканала вывучаць гісторыю Бацькаўшчыны і краіны, у якой жывём. Пятро Новік пажадаў поспехаў у вучобе, Лявон Кароль — не толькі працягваць традыцыі гімназіі, але і выказаў упэўненасць, што школа імя Францішка Скарыны стане гімназіяй. Ганаровым госцем на свяце быў старшыня Таварыства беларускай культуры ў Вільні спадар Хведар Нюнька, які быў таксама ініцыятарам яе стварэння, шмат зрабіў, таму і неабыякавы для яго лёс школы, ён пажадаў плёну ў працы.

На свяце выступілі старшыня ТБШ Ларыса Слесарава, завуч школы Рома Яцкевічэне, яна ж з В. Івановай — і рэжысёр свята. Вучні 7-га класа паказалі гульні, у якія гулялі ў гімназіі.

З канцэртнай праграмай выступілі вучні школы. Асабліва цікава было глядзець і слухаць нумары вучняў пачатковых класаў. Так лагодна ў іх гучала родная мова, дэкламавалі вершы Уладзіміра Дубоўкі, Эдзі Агняцвет, Ніла Гілевіча, Васіля Жуковіча, спявалі беларускія песні. Пасля канцэрта — традыцыйны конкурс "Самы ўдалы вучань-98". Вось тут удзельнікі паказалі сябе рознабакова, трэба было не толькі прадставіць сябе з гумарам, але і станцаваць, праспяваць, паказаць пантаміму. Спаборнічалі малодшая група, сярэдняя і старэйшая. Працавала самае строгае і аўтарытэтнае журы на чале з "камісарам" спадарыняй Р. Яцкевічэне. Пяць гадзін канцэртнай праграмы і конкурсу праляцелі як адна хвіліна, бо было вельмі цікава і захапляюча. Самымі ўдалымі вучнямі сталі Алена Базюк, Максім Ваўдыненка, Анжаліка Быкава, Валянцін Лысенка, Інга Алітойць і Яўген Глебік. Такія конкурсы вельмі важныя для развіцця асобы, дзеці становяцца больш упэўненыя ў сабе, больш раскаваныя, адкрываюцца іх новыя грані. Напрыканцы ўсе прысутныя ў зале спявалі песню на словы Уладзіміра Някляева "Сёння ў нашай школе свята", якая стала ў нас шлягерам.

Хутка ляціць час. У наступным, 1999 годзе будзем адзначаць 80 гадоў Віленскай беларускай гімназіі. А мы, вучні і настаўнікі школы, — нашчадкі былой гімназіі і будзем працягваць яе традыцыі. На заканчэнне хочацца прывесці радкі з верша Веры Дыдышкі:

**Усміхніцеся сонцу, прыгожыя строі надзеньце.**
**Усё прыкрае, горкае хай жа сплыве ў небыццё.**
**Прыгажэйце, кахайце, спадзявайцеся і маладзейце**
**І за сонечны дзень услаўляйце сягоння жыццё.**

**Леакадзія МІЛАШ,**
**настаўніца Віленскай беларускай школы імя Францішка Скарыны.**

г. Вільня.



Дзень гімназіі - 1 лютага

**Малюнак вучаніцы 2-га класа Эміліі СТРАЛЬЧЭНІ.**

# ПАМІЖ ФРАНТАМІ

## БЕЛАРУСЬ У МІЖНАРОДНЫХ АДНОСІНАХ ПАЧАТКУ 1920 ГОДА

Плебісцыт праходзіў шляхам падачы петыцый, якія складаліся на мясцовых з'ездах і накіроўваліся ў Варшаву. "Галасаванне", якое павінна было вырашыць лёс Беларусі, праходзіла са шматлікімі парушэннямі дэмакратычных працэдур. Як пісаў сведка тых падзей, беларускі гісторык У. Ігнатоўскі: "Сялян заманьвалі ў горад "жыўнасьцю", часам цягнулі пагрозамі, а то сілаю, тут іх да з'езду запіралі і выпускалі толькі ў залю пасяджэнняў. Сяляне, даведаўшыся, у чым справа, уцякалі, як з вастрогу. Часам вынікала і апазіцыя, нягледзячы на тое, што падбіралі самых забітых, пакорлівых і несьвядомых сялян". Сведчанне гісторыка пацвярджаюць і тагачасныя дакументы. Так, удзельнікі з'езда Случчыны, скліканага Стражай крэсавай 21 сакавіка 1920 года, Я. Зянюк, А. Катак, Я. Басалыга, Ц. Грынюк, А. Шуляк і інш. (колькасцю 10 чалавек) склалі пасля з'езда рэзалюцыю, дзе заявілі:

"1) На зьезде ня было прадстаўнікоў ад многіх мяйсцовасьцей Слуцкага пав. ...

2) Ад многіх іншых мяйсцовасьцей Слуцкага павету прадстаўніцтва было няправільным: а) выбраных прадстаўнікоў з многіх мяйсцовасьцей не пазвалі на зьезд з прычыны палітычнага характару; б) апрач прадстаўнікоў ад вёскі былі вызваны на зьезд прадстаўнікі ад каталіцкіх касьцёлаў, назначаных ксяндзамі,.. тады як ад праваслаўных цэркваў зусім прадстаўнікоў ня было; в) выбары на зьезд праводзіліся адкрытым галасаваннем, на каторых быў націск з боку Польскай Улады; г) лічба прадстаўнікоў была не прапарцыянальная колькасці насяленьня...; д) пры выбарах, нягледзячы на пытаньні насяленьня, ня было паведамлена аб мэце зьезду.

3) Зьезд быў праведзены пад націскам Польскае Улады, нават была пушчана пагалоска аб арышце непакорных. Аратарам, што прамаўлялі пра Незалежную Беларусь, старшыня зьезду (ён быў назначаны Стражай Крэсовай, а не выбраны зьездам) не даваў гаварыць. Што наогул вядомым беларускім прадстаўнікам старшыня не даваў слова, тым часам, як аратарам Стражы Крэсовай давалася гаварыць не ў чаргу; што, нягледзячы на катэгарычныя дамаганні зьезду запрасіць на зьезд прадстаўніка Беларускага Нацыянальнага Камітэту Случчыны такі прадстаўнік не быў дапушчаны нават з дарадчым голасам, у той час, як прадстаўнікі польскіх устаноў у той лічбе і вайсковых былі дапушчаны на зьезд і выступалі як аратары. Нягледзячы на дамаганьні ўчасьнікаў зьезду, не была выстаўлена павестка дня. Была неўспадзеўкі прачытана рэзалюцыя аб прылучэнні Беларусі да Польшчы, абсуждаць якую было забаронена; выходзіць з залі зьезду перад галасаваньнем рэзалюцыі не пушчалі. Перад гэтай рэзалюцыяй было ўпушчана ў залю некалькі сот чалавек, каторыя ня мелі ніякіх мандатаў. Гэткім парадкам учасьнікамі зьезду было 240 чалавек, а рэзалюцыю галасавалі каля 500 чалавек. Проці рэзалюцыі бадай была большасць, але галасы не падлічваліся, і старшыня зьезду заявіў, што рэзалюцыя прынята аднагалосна.

Дзеля ўсяго вышэй сказанага мы лічым гэты зьезд неправамоцным і зварочваемся да дэмакратыі ўсяго сьвету, пратэстуючы проці гвалту і здзеку над воляю Беларускага Народу".

Зразумела, што вынікі галасавання, атрыманыя такім шляхам, не маглі лічыцца сапраўднымі, і польскае кіраўніцтва нават не спрабавала выкарыстаць іх для абароны сваіх пазіцый, аддаўшы перавагу кантактам з лаяльнымі да Польшчы элементамі беларускага нацыянальнага руху. Пасля расколу Рады БНР у снежні 1919 года Пілсудскі прыняў у Варшаве А. Луцкевіча і А. Цвікевіча, якія прадстаўлялі Найвышэйшую раду БНР. Адхіліўшы прапанову субяседнікаў аб правядзенні перагавораў наконт палітычнай будучыні Беларусі, Начальнік польскай дзяржавы прапанаваў беларусам уваходзіць у мясцовыя органы кіравання ў якасці памочнікаў і намеснікаў стараст (павятовых начальнікаў). Парады Пілсудскага былі сустрэты беларусамі без энтузіязму. Пасля размовы з кіраўніком Польшчы Цвікевіч перайшоў у альтэрнатыўную Найвышэйшай радзе Народную раду БНР. А. Луцкевіч, які фармальна заставаўся кіраўніком урада БНР, падпарадкаванага Найвышэйшай радзе, паспрабаваў зноў вярнуцца ў Парыж, каб інфармаваць еўрапейскую і сусветную грамадскасць аб беларуска-польскіх супярэчнасцях, аднак польскае міністэрства замежных спраў адмовілася выдаць яму дыпламатычную візу. Убачыўшы, што польскі ўрад не жадае прызнаваць правы Беларусі на ўтварэнне нацыянальнай дзяржаўнасці, Луцкевіч 28 лютага 1920 года пакінуў пасаду кіраўніка ўрада БНР.

Апрача Найвышэйшай рады БНР на тэрыторыі, што знаходзілася пад кантролем польскай адміністрацыі, працягваў сваю дзейнасць Часоваы Беларускі нацыянальны камітэт у Мінску (ЧБНК). Паколькі Найвышэйшую раду не ўспрыняла большасць беларускіх дзеячаў, ЧБНК на некаторы час стаў найбольш уплывовай легальнай беларускай арганізацыяй на несавецкай тэрыторыі Беларусі. Нягледзячы на пэўныя палітычныя разыходжанні, у рабоце ЧБНК удзельнічалі лідэры Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р) (Я. Трафімаў, М. Пашковіч, Н. Козіч). У снежні 1919 года кіраўніцтва ЧБНК (К. Цярэшчанка, В. Іваноўскі, А. Смоліч, Крэпскі, Трэпка) дабілася ад польскай акупацыйнай адміністрацыі згоды на стварэнне арганізацыйна-інструктарскага аддзела (яго ўзначаліў Трафімаў). Аддзел рыхтаваў і накіроўваў у воласці і паветы інструктараў для арганізацыі беларускіх школ, культурна-асветніцкіх гурткоў, чытальняў, кааператываў. Такім чынам камітэт змог распаўсюдзіць сваю дзейнасць на Міншчыну, а пазней і на Віленшчыну з Гродзеншчынай. Пры дапамозе Мінскага камітэта былі створаны беларускія нацыянальныя камітэты на Случчыне, Ігуменшчыне, Бабруйшчыне.

Дзеячы ЧБНК прынялі актыўны ўдзел у падрыхтоўцы канферэнцыі па абмеркаванню праблем, што ўзніклі паміж беларускім і польскім народамі. У лютым 1920 года пасля сустрэчы з В. Іваноўскім у Вільні Пілсудскі даў прынцыповую згоду на правядзенне такой канферэнцыі. 1 сакавіка 1920 года была ўтворана камісія па падрыхтоўцы праекта ўрэгулявання беларуска-польскіх адносін і правядзенню перагавораў з прадстаўнікамі Беларусі. Дзейнасць камісіі, якую ўзначальваў Л. Васілеўскі, курыраваў міністр замежных спраў Польшчы С. Патэк. Адначасова польскае ваеннае міністэрства пагадзілася на арганізацыю беларускіх часцей у Брэсце-Літоўскім, якія павінны былі падпарадкоўвацца польскаму ваеннаму камандаванню.

Беларускія прадстаўнікі паставіліся да перагавораў з палякамі сур'ёзна. Да пачатку сустрэчы быў складзены "Мэмарыял па беларускай справе", у якім змяшчаўся шэраг патрабаванняў у галіне школьніцтва, друку, выдавецкай дзейнасці і інш. Складальнікі мэмарыяла патрабавалі ад палякаў прадухіліць падзел беларускіх зямель і даць магчымасць беларускаму народу самастойна вырашыць свой лёс. 16 сакавіка 1920 года Іваноўскі выехаў у Варшаву, дзе сустрэўся з Васілеўскім і перадаў яму мемарыял. Да сустрэчы ЧБНК заручыўся падтрымкай амаль усіх беларускіх палітычных партый і арганізацый, у тым ліку Найвышэйшай Рады БНР.

Перагаворы паміж палякамі і беларусамі праходзілі ў Мінску з 21 па 24 сакавіка 1920 года. Польскі бок на перагаворах прадстаўлялі Л. Васілеўскі, Рачкевіч, Ваявудскі, Стаміроўскі, беларускі — І. Лёсік, В. Іваноўскі, А. Уласаў, А. Смоліч, С. Рак-Міхайлоўскі, К. Цярэшчанка, І. Серада. Перагаворы праходзілі цяжка. Васілеўскі адзначаў, што пажаданых вынікаў можна было дасягнуць толькі пры дапамозе працяглых прынцыповых дыскусій і карпатлівай барацьбы амаль па кожнаму артыкулу. Падчас перагавораў палякі адхілілі 15 з 25 беларускіх патрабаванняў. У прыватнасці, былі адхілены патрабаванні абараняць цэласнасць Беларусі і даць абавязацельства вырашыць лёс беларускіх зямель у адпаведнасці з воляй народа, які іх насяляе, накіраваць беларускую дэлегацыю на мірную канферэнцыю, надаць беларускай мове статус раўнапраўнай з польскай, стварыць следчую камісію па ліквідацыі бальшавізму, стварыць генеральны камісарыят па беларускіх справах (у складзе існуючага Упраўлення крэсаў павятовых, акружных і генеральнага рэферэнтаў па беларускіх справах), стварыць у Вільні літоўска-беларускі ўрад, склікаць ІІ Усебеларускі кангрэс.

Адхіліўшы палітычныя патрабаванні, палякі абавязаліся задаволіць культурныя патрэбнасці беларусаў. На развіццё беларускай адукацыі і культуры было адпушчана 10 717 000 марак (беларусы патрабавалі 29 255 000 марак). 3 609 000 марак беларусы павінны былі атрымаць у пачатку красавіка, а астатняя частка была падзелена на нетэрміновыя выплаты (4 050 000) і штомесячныя ўзносы (па 278 000 марак); частцы субсідый (2 691 000 марак) быў нададзены характар пазыкі.

Пагадненне ад 24 сакавіка1920 года паказала слабасць пазіцый тых партый і арганізацый, якія арыентаваліся на Польшчу. Іх прадстаўнікі нічога не здолелі супрацьпаставіць палякам і ва ўмовах ціску з іх боку былі вымушаны падтрымаць Польшчу, даўшы яе кіраўнікам магчымасць выкарыстаць "беларускую карту" на перагаворах з РСФСР і краінамі Захаду.

**Аляксандр ЦІХАМІРАЎ.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 8.**

*ДА 80-годдзя АЛЕСЯ БАЧЫЛЫ*

# СЛОВАМ АДАГРАВАЎ НАСТЫЛУЮ ДУШУ

Нямногіх прырода надорвае талентам паэта, і не кожнаму паэту выпадае шчасце напісаць верш, які б крануў душу чалавека, а радкі такога верша ўпэўнена набралі б вышыню на лёгкіх крылах музыкі і заўсёды вабілі б нас хараством сваіх вобразаў.

У пачатку сакавіка споўнілася б 80 гадоў выдатнаму беларускаму паэту, літаратуразнаўцу, лібрэтысту, заслужанаму дзеячу культуры БССР Алесю Бачылу. Немагчыма ўявіць сабе нашу беларускую паэзію без яго лірычных вершаў, поўных роздуму над жыццём, прасякнутых шчырасцю людскіх пачуццяў, вельмі дакладным адчуваннем народнага слова, народнай песні. Алесь Мікалаевіч у сваёй творчасці быў заўсёды душэўна верны запаветнаму слову матчынай калыханкі, сваёй радзіме, народу. Яго лірыка вабіць чытача якасцю, набытай не кніжным вывучэннем фальклору, а ў самім асяроддзі народнага жыцця з яго паэтычнай творчасцю, з яго этычнымі і эстэтычнымі вытокамі. Крыніцы, якія жывілі лірыку паэта, былі адкрыты ім яшчэ ў далёкім маленстве на сваёй бацькаўшчыне ў вёсцы Лешніца Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці з яе велічнымі барамі, рачулкай, каля якой у летнюю спякоту вее прахаладай, з сонечнымі ўзгоркамі, зацішнымі ярамі, зарослымі густым маліннікам, з вясёлкай, якая выгнула мост над лугам.

**Прамень махнуў, як шабляй, над папарам —**
**І сігануў на ўцёкі праз палі...**
**А я не ўцёк...**
**Мяне заспела хмара...**
**І грымнуў гром —**
**І ліўнем дождж паліў.**



**Сцяна вады сцяну цягнула цугам...**
**Калі ж патоп той водны адшугаў,**
**Свой мост вясёлка**
**Выгнула над лугам,**
**Над хараством**
**Нявытаптаных траў.**

**Іх аніхто не меў правоў пакратаць**
**Ні нават ты, чакаемая мной.**
**Калі ж сама**
**Па мосце тым ішла ты,**
**Здалося мне,**
**Была ты незямной.**

**Цябе такой не толькі ў лепшых марах,**
**Але не змог пабачыць бы і ў сне...**

**О, знала б ты,**
**Ты, праліўная хмара,**
**Якую радасць**
**Падарыла мне.**

А з якой любоўю, павагай і патрыятызмам Алесь Мікалаевіч звяртаўся ў сваім вершы "Беларусь" да вобраза маці-Беларусі:

**Дзе яшчэ ёсць на свеце**
**Такая, як ты!**
**Над якою зямлёй ідучы,**
**Так праменіцца сонца**
**Святлом дабраты,**
**Шчыра так**
**"Калі ласка!" гучыць!**

**І здзіўляе гасцей тут**
**Не спеў салаўя,**
**Не зялёнае мора гаёў,**
**А цярплівасць твая,**
**Некрыўдлівасць твая**
**І нялёгкае шчасце тваё.**

**. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .**

**Ты спрадвеку на згоду,**
**На дружбу масты**
**Не для ўласнай выгоды кладзеш...**
**Дзе ж яшчэ ёсць на свеце**
**Такая, як ты!**
**Цеш людзей, мая родная!**
**Цеш!..**

Шмат вершаў Алеся Бачылы было пакладзена на музыку, дзе гарманічна спалучаліся простыя, сардэчныя словы паэта з мілагучнай, задушэўнай музыкай, зліваючыся ў цнатліва ясных, крынічна празрыстых пачуццях сыноўняй павагі да роднай зямлі. І хто не ведае гэтае цудоўнае песні, першы радок якой стаў у свой час пазыўнымі Беларускага радыё і своеасаблівым сведчаннем папулярнасці шчырых і праніклівых вершаў паэта:

**Радзіма мая дарагая,**
**Ты ў шчасці жаданым жыві,**
**Я сэрцам сваім прысягаю**
**У шчырай сыноўняй любві...**

Праўда, у першым варыянце песня мела іншы пачатак — пейзажны. Пачыналася яна словамі:

**Люблю я глядзець, як блукае**
**Над рэчкай уранні туман...**

Пейзаж быў навеяны ўражаннямі маленства, той ранішняй пары, калі гэтак прыгожа клубяцца над рэчкай туманы.

У фанатэцы Радыёкамітэта захоўваецца запіс песні менавіта з такім пачаткам у цудоўным выкананні тэнаровай партыі І. Балоціным. Аднак некаму такі пачатак не спадабаўся — і кампазітару Уладзіміру Алоўнікаву давялося апусціць першую страфу верша. Без яе і спявалася песня. Тым не менш яна была любімай і ў прафесійных спевакоў, і ў народных хорах, і проста за святочным сталом. Яна стала глыбока нацыянальнай.

Ён, як творца, ніколі не спакушаўся ні на павевы моды, ні на прыёмы знешняга наватарства. Яго вершаваны радок быў верны тым высокім традыцыям, якія стваралі не толькі нашы вядомыя заснавальнікі паэзіі, але і тая плеяда безыменных песняроў, чый паэтычны скарб застаўся ў народнай памяці — з веку ў век, з сэрца ў сэрца.

Алесь Бачыла шмат напісаў за сваё творчае жыццё, у тым ліку лібрэта опер "Яснае світанне", "Калючая ружа", "Калі ападае лісце" і "Зорка Венера". Вось што ўспамінаў Юрый Семяняка пра работу над операй "Зорка Венера": "Думка аб оперы паводле творчасці Багдановіча ўзнікла пасля таго, як мы з Алесем Бачылам паглядзелі ў тэатры юнага гледача спектакль "Ля сіняй бухты" па п'есе Барыса Бур'яна. Тады мне здалося, што жыццёвы шлях паэта, яго творчасць вельмі прыдатныя для музычнага ўвасаблення. Сваімі думкамі я падзяліўся з Алесем Бачылам — здаецца, гэта зацікавіла і яго. Прайшло колькі часу, і ён адправіўся ў вандроўку па мясцінах, звязаных з жыццём Багдановіча, а яшчэ пазней прынёс мне лібрэта будучай оперы".

Алесь Бачыла не проста стварыў лібрэта, ён, як вучоны, даследчык, збіраў матэрыялы, вывучаў дзённікі, пісьмы, знаходзіў фатаграфіі, перапісваўся з далёкімі сваякамі паэта, пабываў у Ялце — у пакойчыку, дзе правёў апошнія дні Багдановіч... Трэба аддаць належнае вялікай рабоце Алеся Бачылы над дакументальным і гістарычным матэрыялам, што сведчыла пра шчырае захапленне творчасцю паэта. Уся опера ўспрымалася як лірычная паэма пра Багдановіча, лібрэта якой з'яўлялася мантажом вядомых яго вершаў, складзеных з улікам асноўных этапаў жыцця і творчасці паэта.

Як бачым, для развіцця беларускай літаратуры і культуры паэтам было зроблена нямала. Яго творчасць стала адметнай з'явай культуры Беларусі. Таленавітай, самаадданай і яркай асобай паўстае гэты чалавек ва ўспамінах тых, хто быў асабіста знаёмы з ім, з яго творчасцю. Ён належаў да пакалення равеснікаў Кастрычніцкай рэвалюцыі, да пакалення людзей, якіх выхоўвала само жыццё па ўсёй строгасці сваіх законаў, логікай натуральнага, а не штучнага пазнання свету. Можа быць, гэта і ёсць лепшая школа выхавання, калі з юных год чалавек пачынае разумець і ўласную адказнасць за самога сябе, і сваю грамадзянскую годнасць.

**Таццяна ЛАПКОЎСКАЯ.**

*ПОШУКІ, ЗНАХОДКІ*

# ЧАЦВЁРА СА СТАРОГА ЗДЫМКА

Што да астатніх, то яны заявілі, што былі ўзяты ў шайку насільна (звычайная легенда). У ліпені 1863 года Мураўёў зрабіў рэзалюцыю: Азямблоўскага і Рагоўскага пазбавіць дваранскіх правоў і саслаць на катаргу на заводы на 6 гадоў. Наконт Іваноўскага, які называў сябе сынам табольскай мяшчанкі Звалінскай, рашэнне было прытрымана. Улады западозрылі, што тут нешта не так. І, як потым высветлілася, — не без падстаў.

12 жніўня 1863 года ваенны начальнік Барысаўскага павета палкоўнік Дамброўскі (з такім прозвішчам яму больш пасавала б быць сярод паўстанцаў) данёс наверх па інстанцыі:

"Конфирмация его высокопревосходительства генерала-от-инфантерии Муравьева от 31 прошлого июля за № 1464 бывшим дворянам Озембловскому и Роговскому сего числа на торговой площади объявлена, — и оба они вместе с сим препровождены к командиру Минского батальона внутренней стражи за конвоем и в наручнях для отправления по назначению этапным порядком".

Сухая, строгая казённая папера даносіць да нас шчымлівую працэдуру расстання з бацькаўшчынай. На гэтым след Рамуальда Рагоўскага губляецца. Чакаць добрага не даводзіцца: Сібір — не маці родная. Але ўлады на радзіме яшчэ мелі нагоду яго ўспомніць.

У верасні "раскалоўся" супольнік сасланых Іваноўскі, адкрыў нарэшце, што ён паўстанцкі камандзір, былы рускі афіцэр, які ўцёк са службы, Антон Алендскі, родам з Любліншчыны. Пачалося новае следства, ужо індывідуальна над Алендскім.

У справе Алендскага шмат цікавых падрабязнасцей пра паўстанне ў Сенненскім і Барысаўскім паветах. Народ не вельмі верыў паўстанцам. "Везде по дороге Жебровский читал манифесты, но его голос был глас вопиющего в пустыне, крестьяне оставались верными правительству... Содержание манифеста можно выразить в двух словах: "земля и воля", — з горыччу расказваў вязень. Хаця, зрэшты, бывалі і выключэнні, добрыя сувязі з народам здолеў устанавіць мясцовы завадатар Кучэўскі ў Валосавічах, дзе даволі працяглы час быў паўстанцкі лагер. "Кучевский имел сильное влияние на волосовичских крестьян. Человек 13 из них были в партии (атрадзе. — **Г. К.**)... При приближении войск [мужики] бежали с топорами, вилами, дубинами в лес к нам и уверяли нас, что будут добивать солдат". Рэдкі, трэба сказаць, выпадак на ўсходзе Беларусі. Часцей тут было наадварот.

Заціснуты акалічнасцямі, шукаючы ратунку, Алендскі, можа, часам і лішне сыпаў імёнамі і фактамі. У прыватнасці, адзначыў неардынарную ролю Рамуальда Рагоўскага, які прывёў у атрад цэлую групу дабравольцаў з 9 чалавек. Праўда, пашкодзіць катаржаніну гэта ўсё роўна ўжо не магло. Наконт Рагоўскага ў справе Алендскага пракідаюцца і дадатковыя ўстановачныя звесткі: 23 гады, выхоўваўся ў Маскоўскім універсітэце, " в селе Гапуновичи" (так у дакуменце) Сенненскага павета ў бацькі маёнтак. Мабыць, гэта тыя самыя Гапонавічы, адкуль пісаў прачытанае намі разам пісьмо Бішаф у 1862 годзе.

Алендскага за зламанне вайсковай прысягі гасудару-імператару ў 1864 годзе публічна расстралялі ў Мінску. У параўнанні з больш адкрытым, прамалінейным Жаброўскім ён выйграў некалькі месяцаў астрожнага жыцця.

Доўгі час нічога не ведаў пра Гаўрылу Есьмана, знятага на нашай фатаграфіі (гл. фотаздымак ў № 7 "Голасу Радзімы"). Ён сядзіць у паўстанцкай чамарцы ў першым радзе трэцім справа. Выглядае молада, амаль па-студэнцку. Адметнае прозвішча гэтае пракідаецца ў розных кутках Беларусі. Напрыклад, "Польскі слоўнік біяграфічны" падае дэпутата Дзяржаўнай думы Уладзіслава Есьмана са Слонімшчыны. У друкаваным "Списке землевладельцев Минской губернии за 1876 год" Есьманы сустракаюцца ў Бабруйскім, Барысаўскім, Мінскім паветах. Паводле апублікаваных матэрыялаў, нейкія Есьманы (адзін — Цітус) былі ў 1863 годзе ў Ігуменскім паўстанцкім атрадзе С. Ляскоўскага. Нарэшце, у цікавай, вельмі рэдкай кніжцы Я. Кавалеўскага "Успаміны з мінулага: Да гісторыі паўстання 1863 года на Літве" (Вільня, 1907) знайшоў такое месцайка, дзе размова ішла пра невялікі паўстанцкі атрад на Вілейшчыне пад кіраўніцтвам Кавалеўскага і Вінцэнта Адынца: "Атрадзік наш, які складаўся з выдатных стралкоў, быў добра ўзброены, але больш паляўнічай зброяй. Апрача некалькіх сялян, галоўную сілу складала інтэлігенцыя, пераважна з універсітэцкай моладзі. Сярод іншых былі: брат Вінцэнта Ірэней Адынец, тры браты Ратынскія з Краснага, Здзіслаў, Альфрэд і Эрнест (тут пакідаем арыгінал. — **Г. К.**) dr Gabryel Jeśman ze swoim stangretem, Малахоўскі і некалькі іншых". Гэта было ўжо бліжэй да мэты нашых пошукаў. Старая фатаграфія выдатна падсвяцілася радкамі з рэдкай кнігі.

Выходзіць, сярод знаёмых Дуніна-Марцінкевіча быў доктар Габрыель або Гаўрыла Есьман з Вілейшчыны, чалавек перадавых поглядаў, паўстанец 1863 года. Дарэчы, хоць па-польску чытаю ўжо не першы год, мудрае слова stangret было мне незнаёмае, падумалася спачатку, што гэта нешта з галіны медыцыны. Як высветлілася — усяго толькі "фурман". Відаць, Есьман пайшоў у паўстанцы са сваёй доктарскай брычкай і верным фурманам. У другім месцы кнігі ўспамінаецца, што перад злучэннем з галоўным атрадам Вілейскага павета, якім кіраваў вядомы паўстанец Вінцэнт Козел, мемуарыст ездзіў з Есьманам на разведку ў Двінаскія лясы. Магчыма, каб не выклікаць падазрэнняў, паездка і рабілася ў звыклай, знаёмай усім доктарскай брычцы пад выглядам звычайных раз'ездаў мясцовага эскулапа.

У следчых паперах царскіх карных органаў імя Гаўрылы Есьмана мне нідзе не сустракалася. Мусіць, яму, як і Францішку Багушэвічу, удалося затаіцца, перачакаць цяжкую часіну, пазбегнуць рэпрэсій...

Гісторыя гэтая мела свой працяг, звязаны з інтэнсіўнымі міжнароднымі кантактамі вучоных апошняга часу. У 1995 годзе польскі прафесар з Гданьска Анджэй Хадубскі прачытаў на II Міжнародным кангрэсе беларусістаў у Мінску даклад на тэму "Цывілізацыйная роля беларусаў на Каўказе ў XIX — першай палове XX ст." (апублікаваны ў 6-м томе надзвычай змястоўнага зборніка "Беларусіка-Albaruthenica", Мінск, 1997). У прыватнасці, там гаварылася: "Значнае месца ў цывілізацыйнай дзейнасці на Каўказе займае таленавіты вучоны-гідраэнергетык Юзаф Есьман (1868—1955). Ён нарадзіўся ў Вілейцы, дзяцінства і юнацкія гады правёў у Мінску..."

Вілейка... Мінск... Ды і далёкім, вельмі далёкім пачаткам жыцця герой даклада Хадубскага дацягваецца амаль да эпохі Каліноўскага... Адразу адчуў, што гэта мог быць сын вілейскага доктара-паўстанца. Вось толькі як звалі бацьку гэтага гідраэнергетыка? У "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (там артыкул таго ж Хадубскага пра Есьмана) імя па бацьку называецца — Іосіф Гаўрылавіч! Ланцуг замкнуўся. Усё цвёрда стала на сваё месца.

Паколькі не кожны мае пад рукой спецыяльны даведнік, для агульнай арыентацыі прывядзём цалкам гэтую кароткую энцыклапедычную нататку: "Есьман Іосіф Гаўрылавіч (1/13/.12.1868, г. Вілейка Віленскай губ., цяпер у Мінскай вобл. — 1.7.1955), вучоны ў галіне гідраэнергетыкі і гідраўлікі, грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР (1938), акадэмік АН Азербайджанскай ССР (1945). Скончыў гімназію ў Мінску (1887), Пецярбургскі тэхналагічны інстытут (1892). Працаваў на чыгунцы, стажыраваўся ў Аўстрыі, Германіі, Швейцарыі. З 1902 года выкладаў у Пецярбургскім політэхнічным інстытуце. У 1-ю сусветную вайну накіраваны ў Тыфліс, у 1918 годзе — ва Уладзікаўказ. З 1922 года ў Баку, рэктар (да 1929 года) політэхнічнага інстытута. Аўтар падручніка "Гідраўліка" (выдадзены 10 разоў), каля 300 прац па гідраэнергетыцы і гідраўліцы. Прымаў удзел у праектаванні нафтаправода Баку — Батумі".

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 7—8.**

*ПРЭМ'ЕРА*



**Прэм'еру беларускай народнай казкі "Пакаці-гарошак" ажыццявіў Беларускі дзяржаўны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа ў Віцебску. Паставіў яе на віцебскай сцэне вядомы ў Рэспубліцы Беларусь рэжысёр, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Валерый Маслюк.**

**На ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**

**УСПАМІНАЙМА ПРА ІХ!**

# НАРОДНЫ

Улада яго была бязмежная. Яго любілі ўсе! І тэатралы, і нетэатралы. Я ведала негра, які хадзіў у тэатр Янкі Купалы "на Стому"...

І сапраўды — "на Стому трэба было хадзіць! (Як шкада, як сумна ўспамінаць — па часе — што хадзіў не заўсёды, што нешта прамінуў, што некага — з непаўторных — ужо ніколі не ўбачыш і не пачуеш).

Бо як сапраўды — сёння — узновіш, паўторыш, перакажаш той жэст, той прыжмур вачэй і позірк, тыя крокі па сцэне ці, наадварот, як сядзеў, як павяртаў галаву — паставу, што без слоў гаварыла сама за сябе... Як, нарэшце, "агучыш" той голас, тую інтанацыю.

"Сядай, ластаўка!" — гэта найсаладзейшы батона настаўнік на школьным уроку ў сцэне з прыгожай вучаніцай. З незабыўнага спектакля "Я, бабуся, Іліко і Ларыён" Надара Думбадзе.

"Пакарай іх, Божачка літасцівы, пакарай!.. Трасцу вам! Не тое што пяцьдзесят шэсць, а і шэсць пудоў — трасцы! Аднаго пуда — трасцы! Аднаго хунта — дулю! Дулю — аднаго зярняці! Падохніце, выпруціцеся з галаднечы!" — гэта ашалелы ад злосці на сельсаветчыкаў Глушак з "Людзей на балоце" Івана Мележа.

"А што гэта сёння за свята, каб перці ў гаршчок аж цэлага тарана?" — гэта прыжымісты дзед Грысь, не здалеючы ўжо злазіць з печы, з-за коміна камандуе нявесткаю-ўдавою, якую капусту варыць у вербную нядзельку (з радыёспектакля "Пачакай, затрымайся").

Адольф Быкоўскі і Пустарэвіч у "Паўлінцы". Туляга ў "Хто смяецца апошнім". Караўкін у "Браме неўміручасці". Лявон Чмых у "Лявонісе на арбіце". Падхалім Белагубаў у "Даходным месцы". Няздатнік Епіходаў у "Вішнёвым садзе". Крысіп у "Забыць Герастрата!", Дзяжурны па станцыі Лебедзь у спектаклі "Выбух"... Пералік бясконцы... І ўсё гэта ў тэатры імя Янкі Купалы!

Сюды Здзіслаў Стома прыйшоў, зрабіўшы 16-гадовым юнаком першыя крокі на прафесійнай сцэне ў вандроўным Польскім тэатры БССР. Адсюль і пачаўся яго творчы шлях, які склаўся так удала. Ці мог ён, сціплы юнак з рабочай сям'і, і сам рабочы-будаўнік, прадбачыць, што стане адным з карыфеяў беларускай сцэны? Заслужыць найвысокае званне Народнага артыста СССР, будзе мець высокія ўрадавыя ўзнагароды, будзе абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета рэспублікі... І ўсё роўна над усім гэтым стаяла служэнне роднаму Тэатру.

Здзіслаў Стома развітаўся з ім ужо на дзевятым дзесятку жыцця.

Яшчэ ён любіў Паэзію. І сам пісаў вершы. Ужо і ў надта сталыя гады... І нават паспела ўбачыць свет, паспела пацешыць яго кніжка вершаў і казак-вершаў для дзяцей.

Дзеці чытаюць яе і сёння. І таксама цешацца.

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

**СЯМЕЙНАЯ МАЙСТЭРНЯ**





**Многія манументальныя работы ў Баранавічах зроблены рукамі Рамейка-старэйшага: вітрыны з тоўстага літога шкла, вялікія рэльефныя пано з металу, роспісы ўнутры і звонку будынкаў, многія афіцыйныя знакі. За 35 гадоў працы мастака яны сталі прыкметамі горада.**

**Уладзімір Паўлавіч стварыў у горадзе сямейную майстэрню, а разам з ёю і галерэю. Тут усё зроблена рукамі яго, жонкі Вольгі Іванаўны, дзяцей Алесі і Уладзіміра. Ідэя арганізацыі галерэі была выклікана жаданнем стварыць культурна-мастацкі цэнтр, які прыцягвае не толькі людзей мастацтва, але і кожнага, хто цягнецца да прыгожага.**

**НА ЗДЫМКАХ: сямейны творчы савет; унучка Саша — пастаянная госця ў майстэрні ў дзядулі.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

# РАСПАЧАТА ДРУГАЯ СЕРЫЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

кай мінуўшчыны. Каб выданне было даступнае, як кажуць, шырокаму колу чытачоў, пашчыравалі перакладчыкі, дасведчаныя каментатары. Так, Віцебскі летапіс і Магілёўскую хроніку Трафіма Сурты і Юрыя Трубніцкага з польскай мовы пераклаў і пракаменціраваў Віктар Таранеўскі. Баркулабаўскую хроніку, змешчаную тут, дарэчы, і на мове арыгінала, са старабеларускай мовы пераклаў Сяргей Вераціла, каментар да яе зрабіў Аляксандр Коршунаў. Пераклад са старабеларускай мовы старонак Рыцарскага эпасу і "Хронікі Быхаўца" ды каментарыі да іх належаць Зміцеру Саўку. У трох іпастасях — перакладчыка (са старажытнарускай і старабеларускай моў), каментатара і аўтара прадмовы выступіў Вячаслаў Чамярыцкі. Дарэчы, роля прадмовы і каментараў у выданнях такога характару выключна важкая, бо ў летапісах іншы раз, на жаль, сустракаюцца недакладнасці, памылкі. І, як паветра, патрэбны тлумачэнні. Тут якраз той выпадак, калі інтэлект навукоўцаў запатрабаваны.

Прадмова В. Чамярыцкага называецца проста і дакладна: "Сведкі нашай мінуўшчыны". Яна грунтоўная, глыбокая і цікавая, жывая. Аўтар піша, як з узнікненнем пісьменства вусна-паэтычнае асэнсаванне гісторыі (у форме міфаў, паданняў, саг і былін, балад і песень) саступае месца "больш дакладнаму, дакументальна-дзелавому яе апісанню". Ён разважае пра аналы, летапісы, хронікі як пра захавальнікі гістарычнай памяці; яны ўзніклі "ў выніку неадольнага імкнення народа спазнаць сябе, сваю мінуўшчыну, сваё месца ў гісторыі, а таксама захаваць для будучыні імёны, велічныя справы і ўчынкі сваіх герояў, памяць пра найбольш значныя гістарычныя падзеі..." Безумоўна, уплыў гэтых твораў на духоўнае жыццё грамадства, на фармаванне яго этнічнай самасвядомасці і нацыянальнай кансалідацыі вялікі. Выдатная роля летапісаў, іншых твораў даўняга пісьменства на гістарычную тэму, як і фальклору, і ў станаўленні літаратуры.

Ад разваг пра першыя ўсходнеславянскія летапісы, пра манаха Нестара аўтар прадмовы ідзе да гісторыі беларускага летапісання, распавядае пра значнае месца ў ім старажытнай Беларуска-Літоўскай дзяржавы, ВКЛ, пра фактычнага лідэра ўсяе Усходняй Еўропы — Вітаўта.

В. Чамярыцкі, распавядаючы пра першае Адраджэнне ў Беларусі ў эпоху позняга Сярэднявечча, называе неад'емныя ўмовы культурнага росквіту. Гэта палітычная незалежнасць, моцныя элементы дэмакратызму ў грамадскім ладзе, талерантнасць у духоўным жыцці, уздым гарадоў, развіццё гуманізму, рэальны дзяржаўны статус беларускай мовы.

Цікавая думка навукоўца-даследчыка пра блізкасць "Пахвалы гетману Канстанціну Астрожскаму" паводле жанравых асаблівасцяў да "Пахвалы Вітаўту", пра "Хроніку Быхаўца", як, бадай, самую яркую з'яву беларускай гістарычнай прозы эпохі Адраджэння, пра таленавітага гістарыёграфа і апавядальніка Юрыя Трубніцкага, які вылучаецца сярод усіх магілёўскіх летапісцаў шырынёю сваіх поглядаў, дасведчанасцю і аб'ектыўнасцю ў апісанні падзей.

У "Беларускіх летапісах і хроніках" распавядаецца пра мноства дужа важных падзей, гістарычных постацяў, прыводзіцца многа надзвычай цікавых звестак, фактаў.

Яскравыя малюнкі складанага і часта драматычнага жыцця Беларусі паўстаюць перад вачыма, калі чытаеш летапісы і хронікі. Найболей шкоды прыносілі нашай краіне шматлікія захопнікі. Здараліся і іншыя беды. Аўтар Баркулабаўскай хронікі з болем апісвае трагедыю страшнага мору і голаду ў пачатку семнаццатага стагоддзя. Думаю, не могуць пакінуць чытача абыякавым словы змардаванага голадам чалавека, пададзеныя ў гэтай хроніцы: "Спадарыня, перапёлачка, зорухна, зернетка, сонейка, дай дзіцятку лыжачку варыўца сырога!"

Кнігу склаў і рэдагаваў Уладзімір Арлоў. Яе навуковым рэдактарам з'яўляецца Вячаслаў Чамярыцкі. У гэтым каштоўным выданні ёсць ілюстрацыі — мініяцюры Радзівілаўскага летапісу: "Рагнеда падае меч сыну Ізяславу", "Бітва на Нямізе", "Паранены Усяслаў Брачыслававіч з сынамі пераязджае праз Дняпро", партрэты вялікіх князёў — Гедыміна, Альгерда, Вітаўта, гетмана Канстанціна Астрожскага, які трыумфальнай перамогай у бітве 1514 года спыніў на пэўны час агрэсію маскоўскіх князёў, партрэты вядомай Барбары Радзівіл, канцлера і вялікага гетмана ВКЛ Льва Сапегі, вялікага князя і караля Стафана Батуры, іншых уплывовых асоб мінуўшчыны, пячатка Вітаўта, "Бітва пад Воршай. 1514 г.", "Герб "Пагоня" на грамаце ВКЛ" ды іншыя.

Зборнік мае вабны эстэтычны выгляд: цудоўна глядзяцца на зялёным фоне залацістыя друкаваныя літары ў залацістым раслінным арнаменце. Такі класічны ўзровень выдання забяспечаны мастаком Мікалаем Казловым, мастацкім рэдактарам Аляксандрам Драздом, друкарамі паліграфічнага камбіната імя Якуба Коласа.

Адказны за выпуск "Беларускіх летапісаў і хронік" — Язэп Янушкевіч.

Застаецца дадаць, што абедзве серыі "Беларускага кнігазбору", распрацаваныя ў Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы, уяўляюць сабой маштабнае выданне ўсяго самага значнага, што было створана за шматвяковую гісторыю станаўлення і развіцця нашай нацыі. Апрача беларускіх аўтараў, тут будуць прадстаўлены пісьменнікі іншых краін, якія так ці інакш былі звязаны з нашай Бацькаўшчынай і цікава расказалі пра яе ў сваіх кнігах. У "Мастацкай літаратуры" і "Гісторыка-літаратурных помніках" раскрыецца ўся тысячагадовая гісторыя краіны, яе каласальная духоўная спадчына. І той, хто пачне збіраць тамы гэтых надзвычай прэстыжных серый, стане ўладальнікам каштоўнага скарбу — невычэрпнай крыніцы ведаў і духоўнага ўзбагачэння для кожнай сям'і.

Свайго выхаду ў свет чакае мноства унікальных выданняў. Цяпер да друку рыхтуюцца выбраныя творы Яна Баршчэўскага і зборнікі "Філаматы і філарэты", "Літаратура старажытнай Беларусі", а неўзабаве выйдуць выбраныя творы Уладзіміра Жылкі.

Клапатлівым кіраўніком "Беларускага кнігазбору" і каардынатарам усіх пытанняў яго дзейнасці з'яўляецца вядомы паэт, перакладчык і вучоны Кастусь Цвірка.

Падрыхтоўка і выпуск кніг патрабуюць шмат намаганняў і сродкаў.

Управа МФ "Беларускі кнігазбор" заклікае свядомых беларусаў і ўсіх сумленных людзей, неабыякавых да лёсу Беларусі, яе адраджэння, прыняць самы непасрэдны ўдзел у вяртанні нашай "прыспанай" культуры, зрабіць свой пасільны ўклад у наша нацыянальнае адраджэнне. Пэўна, знойдуцца людзі, калектывы, што захочуць прафінансаваць тое ці іншае выданне. Імёны фундатараў будуць выдрукаваны на самым відным месцы таго ці іншага выдання. І такім чынам навечна ўпішуцца ў гісторыю нашай культуры.

З прапановамі і пытаннямі па выданні і набыцці кніг, шаноўныя чытачы, трэба звяртацца на адрас:

**220005, г. Мінск, а/с 185, тэл. 220-70-27.**

**Васіль ЖУКОВІЧ.**

## СА СТАРОГА КУФРА

# НЕГЛЮБСКІ СТРОЙ

***По просьбе нашых землякоў, якія свой вольны час прысвячаюць мастацкай самадзейнасці — роднай песні і танцу, друкуем фатаграфіі і апісанне беларускіх народных строяў. Матэрыялы падрыхтаваны паводле даследаванняў вучонага Міхася Раманюка, які вывучаў традыцыйнае адзенне і класіфікаваў яго з улікам асаблівасцей кожнага рэгіёна***

Неглюбскі строй — традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення Падняпроўя. Бытаваў у XIX — сярэдзіне XX стагоддзяў на ўсходзе Веткаўскага раёна, а таксама на поўдні Краснагорскага і паўночным захадзе Навазыбкаўскага раёнаў.

У жаночым гарнітуры вызначаліся 3 комплексы: кашуля, 2-полкавая панёва (плахта), фартух (запаска), гарсэт, павойнік з саматканай хусткай; кашуля, спадніца-саян (зрэдку андарак), фартух, запінка (часам гарсэт), крамная хустка, завязаная на валасы і выкладзеная спераду на "рог" (выступ-каркас); кашуля, калышка, фартух, кубак (насілі дзяўчаты). Кашулю шылі з 3 (суцэльная) ці 5 (з падточкай) полак ільняной ці баваўнянай тканіны. Кроілі з плечавымі ўстаўкамі, суцэльнымі з узорыстай полкай рукава або сшытымі з ёй, разрэзам пазухі па цэнтры грудзей, каўняром-стойкай (каля 1,5 сантыметра вышынёй) і вузкім рукавом з каўнерцам ці кароткай фальбонай. Арнамент натыкання часцей геаметрычны — зубчыкавыя, пункцірныя ці гладкія палосы, ромбы, крыжыкі, квадраты, скампанаваныя ў розных камбінацыях; вышыўкі — геаметрычны і раслінны (падлікотая гладзь, крыжык). Узоры, выкананыя чырвонымі, чорнымі, радзей белымі ніткамі, кампанаваліся ў палосы (удоўж ці папярок рукава) або ў ячэйкі, утвораныя дыяганальнымі палосамі. Аздабленне шчыльна, як у дыванах, засціпала бачную паверхню рукавоў, плечавыя ўстаўкі, шлякам праходзіла па падоле, ланцужком па каўняры, каўнерцах, швах злучэння рукавоў са станам. Панёва ўяўляла сабой 2 сшытыя прыкладна на 2\3 даўжыні полкі тоўстай баваўнянай клятчатай тканіны пераважна цёмна-вохрыстага, чырвона-карычневага колераў. Фартух шылі з прамавугольнай полкі чорнага валенага сукна (у комплексе з панёвай) або полкі ўзорыстай крамнай тканіны. Гарсэт — з чорнага саціну з дэкаратыўным хлясцікам і складкамі на басцы спінкі. Пояс (каля 25 сантыметраў шырыні) выплецены з цёмна-вішнёвых суканых шарсцяных нітак з мноствам кутасікаў. Запінку з белага палатна, падобную на фартух або туніку, апраналі паверх кашулі замест гарсэта. Аздаблялі ўзорыстым ткацтвам, вышыўкай, карункамі. Надзвычай багатыя шыйныя, нагрудныя і наспінныя ўпрыгажэнні — пацеркі, шыйныя пояскі са штучнага бісеру, стужкі рознай шырыні, даўжыні і колеру; вялікае пашырэнне мелі самаробныя завушніцы. Мужчынскае адзенне мала адрознівалася ад адзення іншых рэгіёнаў. Вопраткай былі армяк, бурнос, кажух і інш. Абутак — хромавыя боты "чобаты", лапці, чуні.



**НА ЗДЫМКУ: узор неглюбскага строю.**

**Падрыхтаваў да друку Дзяніс РАМАНЮК.**

# ЛІМОНЫ ЦВІТУЦЬ У ЦЯПЛІЦАХ

У адной з цяпліц Цэнтральнага батанічнага сада Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь сабрана вялікая калекцыя лімонаў, якія некалькі разоў на год спраўна даюць плады. Мяркуючы па ўсім, у калекцыі вялікая сельскагаспадарчая будучыня. Справа ў тым, што памідорам і агуркам, для таго каб яны паспяхова пладанасілі, неабходны як мінімум 20—22 градусы цяпла, а субтрапічныя цеплалюбівыя цытрусавыя выдатна сябе адчуваюць і даюць плады ўсяго пры 2—3 градусах Цэльсія.

Сёння па краіне пустуюць тысячы квадратных метраў цяпліц, якія з-за высокага кошту электраэнергіі немагчыма абагрэць да патрэбнага ўзроўню. Таму некаторы час назад па рашэнню прэзідыума Акадэміі навук і Батанічнага сада быў пачаты пошук культуры, якая б замяніла нястойкія да холаду памідоры і магла б быць рэкамендавана да масавага развядзення на плошчах, якія пустуюць. Пасля доўгіх даследаванняў, экспедыцый у Расію і на Украіну было вырашана спыніцца на цытрусавых. З 140 вядомых сартоў быў абраны сорт Меера, названы па імені садоўніка Пятра I, які цікавы яшчэ і тым, што ён — самы карлікавы з вядомых у свеце. Летась ужо было знята два ўраджаі, да Новага года паспеў трэці.

Праведзеныя даследаванні паказалі, што лімоны ў Беларусі адчуваюць сябе цудоўна і вырошчванне іх эканамічна апраўдана. Яшчэ адна даволі адчувальная крыніца даходу — продаж чаранкоў насельніцтву. Цяпер лімоны ў цяпліцы паспяхова цвітуць і пладаносяць, самы цяжкі з вырашчаных тут пладоў важыў кілаграм, а з дрэва, на якім расце сорт "Пандэроза", адразу было знята 30 кілаграмаў лімонаў, яшчэ кілаграмаў 20 засталося даспяваць. Усяго ж першы ўраджай склаў 200 кілаграмаў пладоў. Па словах работнікаў Батанічнага сада, лімоны аказаліся для Беларусі вельмі перспектыўнай культурай, ужо абгрунтавана эканамічная эфектыўнасць іх развядзення ў цяпліцах, якія пустуюць. Яны не гінуць нават у тым выпадку, калі зімой замярзае зямля. Вырашчаныя лімоны паступаюць у гандлёвую сетку, так што хутка на пытанне — адкуль лімоны? — пакупнікі ўсё часцей і часцей будуць чуць — нашы, беларускія.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**Жыхар Зэльвы Анатоль ЮСЬКА (на здымку) зрабіў уласны "аўтатранспарт". Ён просты: чатыры колы ды будка замест кузава. А "матор" — конь, якому сем гадоў. Так і працуюць яны ўдваіх. Анатоль Міхайлавіч, былы падпольшчык, цяпер пенсіянер, знайшоў сабе высакародную работу. Штодзённа возіць прадукты з Зэльвы ў дзіцячы сад у вёску Бародзічы. Там яго з радасцю сустракаюць і дарослыя, і дзеці. Малым заўсёды карціць пагладзіць добрага каня, паслухаць аповяды Анатоля Міхайлавіча.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**




НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ




# З ЭМБЛЕМАЙ АЛІМПІЯДЫ

Рэспубліканскае дзяржаўнае аб'яднанне "Белпошта" і выдавецкі цэнтр "Марка" абвясцілі тэматычны план выдання паштовых марак на 1998 год.

Дык якія ж новыя маркі змесцяць у свае альбомы філатэлісты-аматары беларускай паштовай мініяцюры?

План прадугледжвае выпуск 30 паштовых марак па розных тэмах. Чатыры маркі ўжо выпушчаны. З лютага з'явілася ў паштовым абарачэнні серыя мініяцюр, прысвечаная зімовым Алімпійскім гульням у Нагана. Маркі выпушчаны так званым квартблокам, у цэнтры якога эмблема Белай Алімпіяды. Мініяцюры прысвечаны біятлону, фрыстайлу (лыжная акрабатыка), лыжнаму спорту і хакею з шайбай. У дзень выхаду марак у паштовае абарачэнне на Мінскім паштамце праводзілася спецыяльнае гашэнне карэспандэнцыі арыгінальным штэмпелем. Быў выпушчаны і спецыяльны канверт.

На красавік намечаны выпуск пяцімарачнай серыі "Пеўчыя птушкі" з Чырвонай кнігі Беларусі. На марках будуць паказаны белая блакітніца, салаўіны цвыркун, вёрткая чарацянка і звычайны рэмез. Гэта будзе трэцяя серыя беларускай пошты аб птушках з Чырвонай кнігі. Першыя дзве выйшлі ў 1994 годзе.

Пяць марак будзе выдадзена аб дарах беларускага лесу — грыбах.

На марках Беларусі, былога СССР і шэрагу іншых краін ужо былі паказаны палотны беларускіх мастакоў і выхадцаў з Беларусі. Некаторыя з гэтых палотнаў захоўваюцца ў музеях розных краін. Першую пяцімарачную серыю з рэпрадукцыямі карцін, што захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі, выпусціць беларуская пошта ў другой палове 1998 года. На марках будуць прадстаўлены палотны І. Хруцкага, І. Аляшкевіча, В. Бялыніцкага-Бірулі, С. Жукоўскага, В. Цвіркі.

Будуць таксама выдадзены чатыры маркі, прысвечаныя драўлянай скульптуры з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея.

У многіх краінах свету вядомы беларускія вялікагрузныя аўтамабілі БелАЗы і МАЗы. Вядомы нашы аўтамабілі і філатэлістам па марках былога Саюза, Карэі і Манголіі. У 1958 годзе на базе завода "Дармаш" у Жодзіне быў створаны Беларускі аўтамабільны завод. Ужо ў лістападзе 1958 быў выпушчаны першы 25-тонны самазвал. Будаўніцтва ж Мінскага аўтазавода было пачата адразу пасля вызвалення Мінска ў 1944 годзе, і праз тры гады — у 1947 — быў выпушчаны першы МАЗ-205. У плане беларускай пошты выпускі марак, прысвечаных аўтазаводам у Жодзіне і ў Мінску. Усяго намечана выпусціць 10 марак аб беларускіх аўтамабілях.

Будуць таксама выпушчаны мініяцюры да 200-годдзя з дня нараджэння паэта Адама Міцкевіча, да 775-годдзя з дня заснавання горада Нясвіжа, да 50-годдзя арганізацыі па правах чалавека. Будзе працягнуты выпуск "З Новым годам!", і ўпершыню беларуская пошта выдасць мініяцюру да Сусветнага дня маркі.

Некалькі слоў аб апошніх выпусках 1997 года.

Традыцыйна беларуская пошта ў канцы года выпусціла навагоднія маркі — на малюнку адной з іх Дзед Мароз на фоне ёлкі і надпісу "З Новым годам!", на другой — група калядоўшчыкаў — з зоркай, са скрыпкай, бубнам і цымбаламі, з казой і мядзведзем. Такія ж малюнкі на канвертах.

А самым цікавым выпускам беларускай пошты ў канцы мінулага года філатэлісты лічаць марку № 1 выпуску 1992 года з адлюстраваннем Крыжа Ефрасінні Полацкай, на якой у 1997 годзе была зроблена наддрукоўка "Узноўлены і асвячоны ў верасні 1997". У гэтай мініяцюры шчаслівы філатэлістычны лёс. У верасні 1992 года на ёй была зроблена наддрукоўка "1000-годдзе Беларускай праваслаўнай царквы".

Цікавы для філатэлістаў мастацкі канверт, прысвечаны 200-годдзю палацава-паркавага ансамбля ў Гомелі. Мастак В. Сташчанюк пры афармленні канверта выкарыстаў рэпрадукцыю карціны мастака А. Ідзкоўскага (сярэдзіна XIX стагоддзя).

**Леў КОЛАСАЎ.**

# МІЦКЕВІЧ І СВЕТ

Розныя аспекты творчасці Адама Міцкевіча, яго ўплыву на развіццё іншых літаратур будуць у цэнтры ўвагі ўдзельнікаў Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі "Асоба і творчасць Адама Міцкевіча ў кантэксце сусветнай літаратуры", якая 11—12 сакавіка пройдзе ў пагранічным Брэсце. Ініцыятарам правядзення яе выступілі Брэсцкі абласны выканаўчы камітэт, Брэсцкі дзяржаўны універсітэт і фонд Напалеона Орды. На Брэстчыне, як і па ўсёй Беларусі, запланаваны і шэраг іншых мерапрыемстваў, прысвечаных 200-годдзю з дня нараджэння А. Міцкевіча. Што да гэтай канферэнцыі, дык мяркуецца, што яе матэрыялы будуць выдадзены, а таксама кола ўдзельнікаў пашырыцца.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.



Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку».
(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 352.
Падпісана да друку 2. 3. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.